## ПРЫЗВАНЬНЕ

Адна зь ягоных кнігаў, выдадзеных у Маскве на расейскай мове, пачынаецца Купалавымі словамі: «Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына». М.Улашчык — аўтар добрай сотні публікацыяў з гісторыі Беларусі, і кожная зь іх — прыклад таго, як шанаваць, прырошчваць спадчыну, духовыя скарбы народу. Нядаўна Мікалаю Мікалаевічу Ўлашчыку, вядомаму вучонаму, доктару гістарычных навук, споўнілася 80 гадоў.

***— Мікалай Мікалаевіч, паэт, кажуць, пачынаецца з маленства: з матчынай калыскі, бацькавай казкі, зь першай прачытанай кнігі. З чаго пачаўся гісторык Улашчык?***

— Мне пашанцавала на бацьку, — не ўва ўсіх быў такі. Ён ня толькі дбала працаваў на зямлі, але ўмеў рабіць усё, што патрэбна ў доме, у гаспадарцы. У свой час, калі толькі набылі зямлю, ён паставіў хату і ўсе будынкі: гумно, сьвіран, хлявы, пограб. У доме сталы, лавы, шафы, кросны, вёдры, бочкі, цэбры, лыжкі, верацёны — усё бацькавай работы. Ён віў вяроўкі, шыў вуздэчкі, латаў усім дамашнім абутак, а таксама надта любіў чытаць. Гэта было дзіва на вёсцы, бо яго родныя браты ніколі не чыталі. Ад нашай Віцкаўшчыны да Менску хоць невялікі, але ж — па тадышнім часе — ладны кавалак дарогі ў 20 вёрст. Бацька рэгулярна, прыкладна два разы на месяц, наведваўся ў горад, браў у бібліятэцы Станішэўскага (была такая на вуліцы Койданаўскай, цяпер Рэвалюцыйная) кнігі за плату — некалькі капеек за кнігу. Браў усё, ад Пінкертона да Лява Талстоя. Так і мы, дзеці (а нас у сям'і вырасла сямёра) прызвычаіліся да кніг.

Цёплага ўспаміну варты ня толькі бацька. Вельмі добрай, далікатнай і спагадлівай да людзей была наша маці. Крыкліваьсці, жаданьня каму-небудзь дапячы, на каго слабейшага накрычаць, у яе зусім не было. Але разам з тым мела яна свой кодэкс, якога трымалася без усялякіх ваганьняў усё жыцьцё. Папершае, пашана да старых ці проста старэйшых. Па-другое — эканомія; усё, што маеш, трэба берагчы, нічога ня траціць так сабе, без патрэбы. Крый Божа, каб не было лаянкі. Калі хто-небудзь успамінаў чарта, то меў за гэта заўвагу. Былі ў маці і свае пэдагагічныя погляды: дзіцё трэба дагледаць, але ня трэба даваць волі, а калі ня слухае, то на гэта ёсьць дубец. Пры патрэбе зь дзеркача, якім падмяталі хату, выцягвалася пара дубцоў. Ад іх ня надта балела, хутчэй было сорамна, бо пасьля сёстры ці браты пачыналі дражніць. Такая вось сямейная хроніка.



Як зьявілася імкненьне да гісторыі? Неяк у хату трапіла кніга пра Суворава. Я чытаць яшчэ ня ўмеў, ды адвага і спрыт гэтага чалавека так уразілі мяне, што калі аднойчы пры гасьцёх спыталі, на каго я хачу вывучыцца, то адказаў: «На Суворава». Усе засьмяяліся, а мне стала крыўдна: чаго ж яны сьмяюцца? У падручніку трэцяй клясы — вучыўся ў Самахвалавіцкай пачатковай школе — былі зьмешчаныя артыкулы і апавяданьні пра самых відных дзеячоў Расіі. Я чытаў іх з такім азартам, што калі настаўнік спытаў мяне пра Пятра I, то я пераказаў літаральна ўсё, што там мелася. Настаўнік ня ўтойваў свайго зьдзіўленьня. Гэта быў адзіны трыюмф за ўсе дзесяць год навучаньня ў школе.

***— Неяк Вы згадвалі пра свае вучнёўскія ўражаньні з тагачаснае навукі. Падзеі вялікія і малыя адбываліся недзе. Недзе там імпэратары ваявалі, перамагалі, забіралі чужыя землі. Хтосьці адкрываў новыя мацерыкі, астравы, тварылі слаўныя вучоныя, пісьменьнікі, а ў нас быццам не было нічога. Калі ж усё-такі Вам адкрылася, што і ў нас, беларусаў, таксама нешта ёсьць?***

— Неўзабаве пасьля рэвалюцыі. У 1919 годзе наша школа (я ўжо вучыўся ў Менску) была зроблена беларускаю і настаўнік — звалі яго Язэп Шнаркевіч — сказаў, што мы народ, што ў нас свая мова, ня горшая, чым у людзей, і вартая пашаны і вывучэньня. Да гэтага настаўнікі скрозь чаўплі ў дзіцячыя галовы, што мы гаворым брыдка, што трэба як мага скарэй навучыцца гаварыць «хорошо», а ня так, як дома гавораць бацькі. Гэта было дзіва! Далей настаўнік сказаў, што ў нас ёсьць свае пісьменьнікі і раздаў «Родныя зьявы» Якуба Коласа і «Вянок» М.Багдановіча. Тады ж мы, вучні, зачытваліся «Слуцкімі ткачыхамі», іншымі вершамі Багдановіча. Я кажу пра першыя лекцыі роднае літаратуры. Відаць, яны былі і першай навукай айчыннае гісторыі. Летам 1920 году сястра прынесла «Курс беларусазнаўства», выдадзены ў Маскве на расейскай мове. Гэта было цікавейшае за Майн Рыда. Пачаліся пошукі новых кнігаў, зьявілася цяга да

гісторыі наогул. Чытаў Тыта Лівія і нават гісторыю Эгіпту пад рэдакцыяй Віленцьева, але ня здужаў — два надта ж тоўстыя тамы. Сястра параіла прачытаць трэці том «Белорусов» Я.Карскага — пра народную творчасьць. Гэта таксама было дзіва — кніга пра вясковыя звычаі і казкі. Далей цікавасьць да гэтага ўжо не спынялася і не спыняецца па сёньняшні дзень. Не адразу, праўда, вынайшлася форма, адпаведная маім творчым памкненьням. Цікавей было б пісаць не сухія навуковыя працы, але падаваць у лёгкім жанры, як пераказ сур'ёзнага. Жыцьцё, аднак, вырашыла на карысьць «сур'ёзнага».

***— Не скажыце. Сур'ёзнасьць Вашых навуковых працаў не засланіла ў іх лёгкага пяра, пісьменьніцкай іскрынкі. Навуковая аргумэнтацыя і займальная апавядальнасьць — як удаецца такое спалучэньне?***

— Вядома, першыя спробы пачыналіся зь лягчэйшага жанру. Рана, гадоў у дзесяць, прачытаўшы «Вечары...» Гогаля, захацелася мне расказаць, як праходзяць каляды ў нашай вёсцы. Запалу хапіла толькі на першы і адзіны сказ: «А ў нас на каляды...» Далей, як я не пакутаваў над паперай, нічога не выходзіла. Прыблізна ў той самы час спрабаваў перарабляць кароценькія апавяданьні зь нейкай кнігі, але і там не шанцавала. Кінуў і, нават седзячы на літаратурных сходах «Маладняка» ў 20-я гады, не сказаў ані слова. Адзін раз, калі жыў за Волгаю, у стэпах, і калі было надта нудна, пачаў пісаць п'есу, але ўбачыў, што гэта не мае прызваньне, спаліў. Ці быў бы пісьменьнікам, каб пачаў пісаць мастацкія творы? Хіба што не. Няма фантазіі, каб разгарнуць сюжэт. Думаю, што іду па той лініі, па якой мне належыць. Даводзіцца чуць, што мае кнігі чытаюцца зь цікавасьцю. Як гэта выйшла? Тут, на маю думку, патрэбна некалькі акалічнасьцяў. Перш за ўсё, каб у кнізе былі людзі, каб паказаць іх у дзеяньні.

Патрэбнае грунтоўнае, шырокае веданьне матэрыялу, літаратуры і крыніц. Патрэбнае і цярплівае сядзеньне. Пачатак кнігі, у якім хочацца даць усё адразу, вымагае доўгіх правак. Нямала ёсьць старонак, якія пайшлі ў дзясятай ці дванаццатай рэдакцыі. Зразумела, трэба трохі мець у запасе сарказму ці гумару. І, вядома, адвагі глядзець фактам у вочы. Шмат чаго трэба —доўга лічыць.



***— Яшчэ, калі можна, пра Вашую гістарычную «амуніцыю». Дзе яна назапашвалася?***

— У 1922 годзе ў школе, у якой я пачынаў вучыцца і якая стала сямігодкаю, увялі «Гісторыю Беларусі» Ўсевалада Ігнатоўскага. Настаўнік Масюкевіч сказаў, што гэты курс будзем праходзіць «способом объяснительного чтения». Гэта значыцца, што хто-небудзь з вучняў чытаў разьдзел з «Гісторыі...», а настаўнік тлумачыў. На той час я ўжо прачытаў гэты курс і ведаў яго ня горш за настаўніка. Але глыбокае, сьвядомае замілаваньне гісторыяй прыйшло падчас вучэньня ўва ўнівэрсытэце. На маю долю выпалі відныя настаўнікі: У.Пічэта, М.Доўнар-Запольскі, Зьм.Даўгяла. Спрыяла дзейнасьць ува ўнівэрсытэцкім краязнаўчым таварыстве, дзе я сакратарыў пад старшынствам самога рэктара Пічэты. Смак да жывой, што называецца, першароднай мінуўшчыны ўзмацнялі археалягічныя экспэдыцыі — на Банцараўскае гарадзішча каля Менску, па Сьвіслачы, па Бярэзіне, у Тураў, за Прыпяць, на Полаччыну. У гэтых падарожжах мы асабліва здружыліся, як аказалася, на ўсё жыцьцё, зь Сяргеем Шутавым, доктарам па спэцыяльнасьці, але па сутнасьці археолягам. Не магу не згадаць пра нашу Дзяржаўную бібліятэку, дзе ў 1925-29 гадах працаваў я сакратаром Кніжнай палаты,адначасова з вучэньнем ува ўнівэрсытэце. Было і там чаму і ад каго павучыцца: Ю.Бібіла, І.СімаНоўскі. Не кажу пра кніжныя скарбы, што праходзілі праз мае рукі.

***— Пазайздросьціць Вашым унівэрсытэтам...***

— Пачакайце зайздросьціць. Скончыўшы ўнівэрсытэт, падумаў, што за пяць гадоў мала чаму навучыўся. Гэта-такі праўда. Да таго ж, у 30-я гады я бачыў, што гісторыя застаецца ня надта ганараванай і спрабаваў перакваліфікавацца на фізыка, але «душа не прыняла». Пэўна, мама нарадзіла гісторыкам, і перарабіць сябе ня змог. У 1944 годзе, калі паступіў у асьпірантуру, маючы за плячыма 38 гадоў, убачыў, як мала ведаю. А між тым, за мінулыя гады я шмат прачытаў і лічыўся добрым школьным настаўнікам.

***— Мікалай Мікалаевіч, пра Вашу творчую майстэрню вучонага цікава апавядаў у «Нёмане» Эрнэст Ялугін. Хацелася б яшчэ паслухаць Улашчыка-літаратара, які хоць і падна-***

***чаліў сябе навуцы, але і літаратурнага таварыства не адцураўся. Вам жа пашчасьціла бачыць і слухаць жывога Янку Купалу...***

— Купалу ўбачыў першы раз 22 сакавіка 1922 году на ўрачыстым паседжаньні, наладжаным у яго гонар ува ўнівэрсытэце. Сустрэча адбывалася на Магазыннай (цяпер вуліца Кірава), у будынку былой габрэйскай рэальнай вучэльні, перададзенага мэдыцынскаму факультэту. У залі было халодна. З прамовамі выступілі Пічэта, пасьля дацэнт Узьнясенскі, урэшце далі слова дзядзьку Янку, як пачціва звалі яго маладзейшыя. Да таго моманту я наогул ня бачыў жывога паэта, а тут Купала! Ён быў пасьля хваробы, зь ціхім голасам, чытаў без усялякай жэстыкуляцыі, проста. Здаўся невысокага росту, кепска апранутым — у моцна заношанай бекешы нейкага няпэўнага колеру, з абдзёртым жаўтавата-шэрым каўняром. Усе гэтыя пабочныя дробязі і запомніліся, відаць, толькі праз тое моцнае ўражаньне, якое зрабіў на слухачоў голас песьняра:

А хтось далёкі, ці хтось можа блізкі
Засеў за наш бясёдны сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.
................................
Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч бураломны: вызваленьне з пут?!

Гэта радкі зь верша «Перад будучыняй» — імі і закончыў Купала сваё выступленьне. Але ж трэба, колькі часу прамінула з таго дня, чаго толькі не прасеялася праз галаву, а Купалавы словы засталіся, зарубцавалаіся ў памяці зь першага разу... Пазьней дастаў яго «Спадчыну», чытаў усю ноч, да раньня. Таксама многае запомнілася. Як некалі ў дзяцінстве запомніліся Коласавы «Горад і вёска», толькі раз пачутыя.

***— Дарэчы, пра «Горад і вёску». Нечакана А.Пшчолка «аб'явіў» свае правы на аўтарства. У архівах Вільні натрапілі на рукапіс гэтага верша з подпісам Пшчолкі.***

— На маю думку, найбольш пэўны аўтар — Якуб Колас. Зьедлівы да сялянскага побыту Пшчолка тут абсалютна не падыходзіць. Пісаў, бясспрэчна, вясковец, пісаў у тым духу, які быў так уласьцівы вясковаму чалавеку, які лічыў жыхароў гораду запанелымі гультаямі. Аўтар, безумоўна, таленавіты, верш яго лёгкі, чысты, толькі слухаць:

Бог хоць раз прывёў Гаўрылу
Ў велькім горадзе пабыць,
Але мілу сваю вёску
Не магу ніяк забыць...

Адно тое, што радкі запомніліся зь першага разу, на слых, гаворыць пра здольнасьць аўтара. Нудны Пшчолка тут проста не на месцы.

***— Вернемся, аднак, у літаратурны, Купалаў Менск...***

— Тады, у дваццатыя, наша беларуская сталіца была горадам ня дужа вялікім і зусім ня тлумным. Усіх колькі-небудзь вядомых людзей было проста напаткаць на вуліцы, сярод іх і Купалу. Але непасрэдна я спатыкнуўся толькі адзін раз, калі швагерка Міхася Грамыкі Іна Рытар наладзіла сустрэчу «старых» (старым не было і пяцьдзесяці) з маладымі. Былі Купала з Купаліхаю, Ластоўскі, Лёсік, Грамыка — усе з жонкамі. З маладых — Юзік Бараноўскі (будучы хірург), Іван Юрашкевіч (будучы настаўнік) і я. З маладых паэтаў у нас часта бываў Алесь Гурло, капылянін, закаханы ў маю сястру. Былы матрос, удзельнік штурму Зімняга, быў ён на дзіва ціхі, нават сарамлівы чалавек, аніяк не падобны да тых задзірыстых матросаў з спэктакляў і кіно — штаны клёш, забіякі... Але ці не забавіліся мы ў мінулым?

***— Можа, і не. Гэта ж сучаснасьць, толькі крыху прыцярушаная гадамі. Мікалая Ўлашчыка ведаюць як шчырага рупліўцу літаратурнага жыцьця сёньняшняй Беларусі. Што Вас у гэтым жыцьці цешыць, што заклапочвае? Лічыце, што гэта пытаньне і сябры Рады па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменьнікаў СССР.***

— Прыждалі, дзякаваць Богу, багатай літаратуры, шанаванай дома і далёка за домам: Іван Мележ, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Вячаслаў Адамчык, Максім Танк, Пімен Панчанка, Ніл Гілевіч і многія іншыя... Але ў многіх пісьменьнікаў насьцярожвае мова — сухая, стандартная, нібы калька. Уражаньне, чыта-

ючы, такое, што пісьменьнік думае па-руску, а пасьля газэтнаю моваю піша па-беларуску. Вельмі мала хто ведае свой фальклёр, як яго ведалі Купала, Колас, Гарэцкі, Чорны. Іншаму аўтару, калі трэба напісаць якую прымаўку, то піша заезджую, якой рускія пісьменьнікі даўно выракліся. Найлепшы зь пісьменьнікаў на гістарычныя тэмы Ўладзімер Караткевіч, але й ён не пазьбег непатрэбнай пасьпешлівасьці. Вельмі вялікая мастацкая і гістарычная культура была ў Мележа. Яго ўсебеларускі стараста Чарвякоў і Менск пачатку 30-х гадоў! Так не пісаў ніхто. А вобраз Алеся Маёвага! І, наогул, гэтак панарамна разгарнуць падзеі... Тут мала ведаць гісторыю, трэба перапакутаваць ёю, загартаваць на сэрцы свае веды.

***— Апошнім часам чуваць, мацнее рупнасьць да роднага слова. Што абнадзейвае — маладыя шырэй кратаюцца да народных вытокаў. Ня толькі ў літаратуры, ня толькі філёлягі, журналісты — ім, як кажуць, з абавязку патрэбна спраўнейшая мова. Але — інжынэры, рабочыя, гараджане... Бачу на Вашым стале «Сурму» Алега Мінкіна, з новага літаратурнага пакаленьня. Упершыню пачуў пра яго ў Вільні, ад Зоські Верас. І ведаеце, Людвіка Антонаўна вельмі ўсьцешліва адазвалася акурат аб мове маладога паэта.***

— Мова Мінкіна сапраўды добрая. І гістарычнае пачуцьцё ў аўтара высокае, трапяткое. Нядаўна, раз гаворка пра моладзь, прачытаў апавяданьне «Маўклівы маналёг» Уладзімера Арлова —сталы, абяцаючы пачатак. Што ж, кожнае новае пакаленьне на свой лад, па-сучаснаму ўглядаецца ў нацыянальныя традыцыі, у мінулае свайго народу.

***— Нейпрыкмет я забавіў Ваш час. Але, на заканчэньне, дазвольце яшчэ адно пытаньне. Плён Вашае творчасьці немалы: не адна сотня публікацыяў па гісторыі Беларусі, сярод іх чатыры манаграфіі, два тамы летапісаў. Сюды ж нельга не дадаць Вашых многіх выступленьняў пры абароне кандыдацкіх, доктарскіх дысэртацыяў, многіх рэцэнзіяў, водгукаў на рукапісы навуковых кніг, мастацкіх твораў, выступленьняў па радыё, тэлебачаньні, перад моладзю. Нядаўна ўбачылі сьвет Вашыя «Ўводзіны ў беларуска-літоўскае летапісаньне». У тым жа выдавецтве «Наука» каторы год чакае свае чаргі яшчэ адзін рукапіс М.Улашчыка — «Кніга пра сваю вёску». Толькі за апошні год у друку зьявіўся з добры дзясятак Вашых артыкулаў, нататак. Скрозь на Вашым творчым «варштаце» стос новых кніг, рукапісаў, найчасьцей зь Беларусі. Аўтары просяць і чакаюць Вашае парады, падтрымкі. Вы ўсюды патрапляеце! За што б ні браліся — робіце трывала, хораша. Мікалай Мікалаевіч, адкуль гэткая цягавітасьць? Гэткая, зайздросная як на паважны век, высокая творчая спраўнасьць?***

— Спадчына: «Ад прадзедаў спакон вякоў...» — Тут сілы, тут клопат.

*1986*



## ПРИЗНАНИЕ ЮБИЛЯРУ*

*«Кожны край мае тых,*
*што апяваюць, чым ёсьць*
*для народу ўпадак і хвала,*
*А беларусы нікога ня маюць...»*

В самом деле, долго считалось, что у белорусов нет ни своих поэтов, ни своих ученых. Нет, мол, у них ни своего национального прошлого, ни, стало быть, собственного белорусского будущего. Янка Купала, строки которого вначале вспомнены, а вместе с ним Якуб Колас, Максим Богданович, опровергли представление о белорусах лишь как об этнографическом материале, явив своим поэтическим гением духовное совершенство и историчность своего веками притесняемого и унижаемого народа.

В 1919 году ученик-подросток одной из первых белорусских школ в городе Минске, знакомясь с творчеством национальных классиков, пережил, возможно, первое в своей жизни открытие: его Родина — никакой не Северо-Западный край, никакая ни окраина, а удивительная страна — *краіна*, со своим собственным именем Беларусь, и его родной язык, родная мова, к которой прежняя школа воспитывала только пренебрежение, не менее певуч и прекрасен, как и любой другой, что, наконец, у его народа есть своя, достойная изучения, богатая история. Любознательному и впечатлительному крестьянскому пареньку суждено было стать видным ученым. Тем

человеком, открывателем, кто великую художественную правду о своем народе дополнит правдой исторической науки. Вот почему белорусы за свое духовное бессмертие будут столь же благодарны историку Николаю Николаевичу Улащику, как благодарны они своим великим мастерам художественного слова. Впрочем, эта признательность уже выражается в печати, с телеэкранов Беларуси в связи с юбилеем ученого. Творческая судьба Юбиляра отмечена еще одной примечательностью; о ней нельзя не вспомнить. Имею в виду ту высокую отзывчивость человеческую, которую проявили и проявляют к судьбе историка Улащика его великорусские коллеги. Во многом благодаря этой поистине братской поддержке наш пророк, некогда насильно выставленный из Отечества, сторицей воздал своей Родине и народу. Будет же мне позволено через уважаемого председателя торжества — Виктора Ивановича Буганова — выразить *шчыры беларускі дзякуй* всем друзьям и сподвижникам Юбиляра по Институту истории. Института Дружинина, Бережкова, Грекова, Тихомирова, Нечкиной и... Улащика.

*1986 г.*

* *Выступ на ўрачыстым паседжаньні ў Інстытуце гісторыі АН СССР 4 лютага 1986 году, прысьвечаным 80-годзьдзю М.М.Улашчыка.*

## ВОЛАТЫ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

Такія людзі не паміраюць. Адыходзяць у небыцьцё — забыцьцю непадуладныя. Застаюцца ў памяці жывых, покі наканавана жыць народу, якому да скону слугавалі. Высокая ідэя народнасьці незгасальнай зоркай вяла Мікалая Ўлашчыка праз усе доўгіяцярністыя вёрсты. Толькі такая ідэя і магла адарыць Яго чыстым сумленьнем, высокім розумам, глыбокай чалавечнасьцю, наталіць сілу і волю. Пэўна, таму сын Мікалая і Соф'і Ўлашчыкаў зь беларускай вёскі Віцкаўшчына змог адолець безьліч пакутных выпрабаваньняў, выстаяць, ня здрадзіць свайму прызваньню.

Такіх людзей на Беларусі здавён завуць волатамі. У асобе Мікалая Ўлашчыка беларусы займелі яшчэ аднаго волата-асілка духу. Сваімі працамі па гісторыі Беларусі вучоны зрабіў тое, што



раней для нашага народу зрабілі клясыкі літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі — вялікую мастацкую праўду аб беларусах абагаціў і падмацаваў трывалым падмуркам гістарычнай навукі, бліскуча доўжачы справу сваіх папярэднікаў і настаўнікаў Мітрафана Доўнар-Запольскага, Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Уладзімера Пічэты. Вось грунтоўныя апоры гэтага падмурку:

— за плячыма беларусаў, як і кожнага народу багатая шматстагодняя гісторыя палітычных, дзяржаўных і культурных традыцыяў;

— на працягу стагодзьдзяў выказалі яны дастатковую здольнасьць і неадольнае імкненьне да самастойнага, без апекуноў звонку, свабоднага разьвіцьця;

— часовыя, нават зацяжныя паражэньні палітычна-дзяржаўных арганізмаў не азначаюць паражэньня этнічна-грамадзкай супольнасьці як такой. Народ — матэрыя незьнішчальная. Раней ці пазьней, але непазьбежна выяўляюцца і зьдзяйсьняюцца ўсенеабходныя задаткі ягонага самасьцьверджаньня-самаразьвіцьця. Значыць, былі беларусы, ёсьць і будуць — вось галоўны вывад, а цяпер і запавет Мікалая Ўлашчыка.

Жыцьцёвы вычын вучонага стаў адначасна прыкладам беларуска-расейскага пабрацімства. Беларусы з удзячнасьцю будуць памятаць пра тое, што менавіта ў Маскве Ўлашчык зрабіў тое, што зрабіў. Як не забудуць і тых, хто пабіваў прарока каменьнямі і пазбавіў айчыны, хто перад Словам Беларускага Вучонага наглуха замкнуў дзьверы беларускіх унівэрсытэтаў, выдавецтваў. Гутарка йдзе аб уласнабеларускіх рэнэгатах-далакопах.

На змагарным полі — а жыцьцё Ўлашчыка было суцэльным змаганьнем — Ён быў і застаўся мужным, непахісным ваяром. Не чакаў камандаў «зьверху», не спакушаўся ордэнамі, трымаючыся цьвёрда й пасьлядоўна абранае пазыцыі, празь якую пралегла граніца велічы й неўміручасьці ягонае Краіны і Народу. Зь інфарктам засьпела яго «мэдычная дапамога» над старонкамі чарговай і, як аказалася, апошняй працы — амаль завершанага артыкулу пра Статут Вялікага Княства Літоўскага 1529 году. Ужо з шпітальнага ложку, відаць, прадчуваючы свой трагічны зыход, Ён сьпяшаецца паслаць галоўнаму рэдактару выдавецтва

«Мастацкая літаратура» прапанову аб надрукаваньні свае кнігі пра гісторыю роднае Віцкаўшчыны. Вёскі, якая на старонках беларускае культуры застанецца ў адным духатворчым шэрагу зь Вязынкай, Мікалаўшчынай, Багацькаўкай.

Адышоў Мікалай Мікалаевіч. У бесьсьмяроцьце. Каб адтуль варушыць сумленьне і думку жывых. І наступнікаў клікаць да вялікае справы.

Вечная памяць.

*16 лістапада 1986 г.*

## У ВЯНОК АДРАДЖЭНЦУ
### На 90-я ўгодкі Мікалая Ўлашчыка

У ягонай хатняй, па-свойму ўнікальнай бібліятэцы нямала кнігаў з аўтографамі. Прачытаем адзін з такіх: «Мікалаю Мікалаевічу Ўлашчыку. З глыбокай павагай і ўдзячнасьцю за ўсё, што Вы зрабілі для савецкай навукі, для роднае Беларусі. К.Мазураў. Люты, 1985. Масква». Тэкст гэты ў расейскім перакладзе згадваўся ўжо Э.Ялугіным у нарысе аб падзьвіжніку «з цэху гісторыкаў». Але ж першаснае гучаньне неяк, здаецца, цяплей, далікатней да слыху горнецца. Ды і кранальная беларушчына ўладарнага ў мінулым партыйнага дзеяча, вылучэнца зь Беларусі ў Маскву на ўрадавы алімп, нечага таксама вартая. Прынамсі —сваім незмушоным напамінам пра вячыстыя нацыянальныя каштоўнасьці, пра тую родную, гаючую крыніцу, да якое раней ці пазьней прагна прыпадае беларуская душа, стамлёная задоўжанымі, нярэдка марнымі блуканьнямі чужым, далёкім сьветам.

Аднак згадаем пра вучонага, ягоны сустрэчны сыгнал духовы, скіраваны да палітыка, а магчыма, да кожнага з нас: «Кірылу Трафімавічу Мазураву, які ўзначальваў наш народ. — Скрозь у сваіх працах сьцьвярджаю, што мы, беларусы, — людзі як людзі, што ў нас свая высокая культура. З пашанай — Улашчык. 18.11.85.» (на кнізе «Очерки по археографии и источниковедению Белоруссии...» 1973). Знаёмая Ўлашчыкава сьцісласьсьць, дакладнасьць: адным-другім радком вызначаная сутнасьць творчага шляху чалавека, якому таксама культура беларуская заўдзячвае прыкметнае падвышэньне свае якаснае планкі.



Нехта з маладзейшых калегаў і наступнікаў Мікалая Мікалаевіча трапна сказаў аб ім: вярнуў Беларусі ейную гісторыю. Можна ўявіць сабе вартасьць вернутага, асабліва беручы пад увагу нашыя неаблічоныя страты, моцна падкалечаную гістарычную сьвядомасьць. Як уявіла, перажыла й выказала паэтэса ў вершы-прысьвячэньні М.Улашчыку:

Верыў — ад цітла да цітла зьвяжа ўсе зьвеньні.
Праўду дакажа,
а пыл над векам даўчаснай труны
настаўніка першага вытра.
Сонца ўвядзе ў сутарэньні.
Шукальнікаў долі імёны
Ачысьціць ад гнюсу маны...

*(Данута Бічэль-Загнетава.*
*Гісторык // Полымя. 1988. № 12.)*

Такім чынам — гісторык. На гэтай дзялянцы ім пакладзеныя галоўныя жыцьцёвыя сілы, увечненыя ў фундаментальных працах з аграрнай гісторыі, гістарыяграфіі, археаграфіі, крыніцазнаўства, культурнай спадчыны Беларусі. Яшчэ пры жыцьці аўтара ягоныя публікацыі выклікалі шырокі розгалас у навуковым асяродзьдзі, іх наватарскі характар заўважылі, ацанілі многія вядомыя дасьледчыкі. Нельга не адцеміць міжнародны прэстыж беларускага гісторыка, чые манаграфічныя дасьледаваньні грунтоўна прааналізаваныя і падтрыманыя ў Расеі, Летуве, Украіне, Польшчы, Румыніі, Нямеччыне, Англіі...

Вітаўт Кіпель, кіраўнік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, наўрад ці перабольшвае, падкрэсьліваючы ў лісьце да аўтара гэтых радкоў, што на Захадзе «пасьля Я.Карскага М.Улашчык, як навейшы навуковец-гісторык, змусіў трактаваць Беларусь як асобную дзяржаву ў мінулым. Ягоныя працы — стандартныя дапаможнікі ў Амэрыцы». Паралель з акадэмікам Карскім, «Беларусы» якога моцна былі ўзварушылі ў свой час юначае сэрца, магчыма, у нечым і перадвызначылі далейшы лёс вучня-падлетка зь вёскі Віцкаўшчына, вельмі паказальная. Па-першае, скіроўвае наша ўяўленьне на адэкватнае ўспрыняцьцё культура-творчага маштабу аўтара «Передумоваў сялянскай

рэформы 1861 г. у Летуве і Заходняй Беларусі», «Уводзінаў у вывучэньне беларуска-летувіскага летапісаньня», «Нарысаў па археаграфіі і крыніцазнаўстве Беларусі...», капітальных крыніцазнаўчых тамоў з айчыннымі летапісамі. Па-другое, і ці не асноўнае, засяроджвае нашу ўвагу на якасна новым мэтадалягічным узроўні сучаснае беларускае думкі ў асобе Ўлашчыка. Калі шматвяковы шлях асэнсаваны й пераканаўча прадстаўлены чытачам з уласна беларускіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, а беларуская супольнасьць —у якасьці паўнавартаснага ўдзельніка, с у б' е к т а гісторыка-цывілізацыйнага працэсу, а не маргінальнай — «окраинной» або «крэсовай» — часткі тае ці іншае суседняе дзяржавы.

Увогуле ж творчае аблічча Ўлашчыка шматграннае, энцыкляпэдычнае. У ягонай спадчыне набыткі гістарыёграфа спалучаныя зь ня менш каштоўнымі росшукамі, публікацыямі ў галінах бібліяграфіі і кнігазнаўства, археалёгіі і краязнаўства, этнаграфіі і фальклярыстыкі, мэмуарыстыкі і літаратурнай крытыкі.

Адметнае месца заняў ён сярод пісьменьнікаў Беларусі, з сваім ляпідарным, сакавітым стылем. Улашчык-літаратар, здаецца, увасобіў сабой той новы тып творцы, якога некалі прадказаў Л.Талстой — у тым сэнсе, што зь цягам часу пісьменьнікі будуць «не сочинять, а только рассказывать то значительное и интересное, что им случалось наблюдать в жизни». Нарыс пра родную Віцкаўшчыну, аўтабіяграфічныя, часткова надрукаваныя «хранікальныя» нататкі — хіба гэтыя творы, зроджаныя з арганічнага перажываньня асабістага жыцьцёвага шляху і лёсу «малой» ды вялікай Радзімы, з драматычных выпрабаваньняў свайго народу, не ўзбагачаюць літаратуру, у нечым падважваючы традыцыйныя ўяўленьні пра яе?

Высокая чуйнасьць на гістарычную праўду ўдала спалучалася ў ім з разьвітым эстэтычным густам. Відаць таму вучоны, даволі добра зарыентаваны ў бягучым культурным жыцьці Беларусі, зазвычай аб'ектыўна а заразом прыязна й патрабавальна ўспрымаў новыя прозьвішчы і творы нацыянальнага пісьменства. І досьвед Улашчыка-крытыка, рэцэнзэнта ў якасьці сябры Рады зь беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменьнікаў СССР — яшчэ адна творча насычаная, хоць пакуль што малазнаная шырокай



грамадзкасьці старонка ягонага жыцьцяпісу. У межах невялікае нататкі можна толькі згадаць, для прыкладу, ягоны выступ у маскоўскім Доме літаратараў, прысьвечаны 90-ым угодкам Максіма Багдановіча; рэцэнзіі, заўвагі на публікацыі аб Францішку Скарыну, на рукапісы некаторых твораў Уладзімера Караткевіча і, асабліва, крытычны водгук на кнігу Алега Лойкі «Янка Купала», выдадзеную ў сэрыі ЖЗЛ — кнігу, на думку рэцэнзэнта, вельмі абцяжараную фактычнымі недакладнасьцямі, адвольнымі выдумкамі , што ў выніку прыкметна скрывіла і характар эпохі, і сапраўдныя тэндэнцыі разьвіцьця беларускай культуры, літаратуры, і воблік народнага паэта, сьцяганоснае духовае постаці беларусаў.

Увогуле ж пра заангажаванасьць Улашчыка ў штодзённых творчых клопатах краіны многае здольныя сказаць і пасьведчыць выразы падзякі, прызнаньня, выказаныя яму ў розных формах, пры розных нагодах знакамітымі творцамі айчыннае культуры, навукі — Канстанцыяй Буйлай, Зоськай Верас, Гаўрылам Гарэцкім, Язэпам Дылам, Іванам Мележам, Сьцяпанам Александровічам, Фёдарам Янкоўскім, Станіславам Шушкевічам, Генадзем Каханоўскім, Міхасём Ткачовым, Уладзімерам Калесьнікам... — калі згадаць хаця б тых, хто, як і Ўлашчык, адышлі ўжо ў вечнасьць. У гэтай жа кагорце — яшчэ адзін надзвычайны пісьменьнік, несуцешны пакутнік-жыцьцялюб праўды і долі Беларусі, чые ўдзячныя словы да вучонага-гісторыка таксама сталі прыкметным фактам гісторыі: «Мікалаю Мікалаевічу Ўлашчыку з падзякай за ўсё, што ён зрабіў для мяне і для «Зямлі пад белымі крыламі». Ул.Караткевіч. 8 сьнежня 1977 г.».

Аўтарытэтны знаўца гісторыі і культуры, чалавек надзвычайна адкрыты, даступны, далікатна ўважлівы ў абыходжаньні зь людзьмі, Мікалай Улашчык на фоне іншых прыкметных фігур вылучаўся нейкай асаблівай, неадольнай прыцягальнасьцю мала не для кожнага рупліўца Беларускай Думкі, Беларускай Справы, —для ўсіх тых, хто шукаў у ім і знаходзіў адказы на самыя патаемныя, часам надта балючыя пытаньні. На мноства праблемаў — ад паасобных, малазнаных ці спрэчных падзеяў і постацяў мінулага да, так бы мовіць, найбольш глябальных, востра надзённых: як стварыць навуковую гісторыю Беларусі,

бараніць ад занядбаньня ейную спадчыну, як усьцерагчы ад захліпленьня ў асымілятарскай твані роднае слова беларускае.

Пэўна, згаданае прыцягненьне моцна падмагнічвалася легендарнасьцю лёсу гэтага чалавека, чыя чалавечнасьць, навуковасьць, беларускасьць былі дастаткова выпрабаваныя, загартаваныя жорсткімі рэаліямі трагічнага часу: турмою, высылкамі, прымусовымі лягерамі, маразамі Сібіру ды сьпякотай казахстанскага стэпу. Калісьці яго сілком пазбавілі Бацькаўшчыны і вось ён тут, у Маскве, выявіў сябе творцам новай ідэальнай Беларусі — магутнае Краіны Духу, не падуладнай ні даносчыкам, ні навукападобным мітусьліўцам, аніякай закормленай, зьмізарнелай чэрні — зазвычай абыякавай, варожай да праўды, тым болей праўды нацыянальна самаакрэсьленай.

У тых смутных, гістарычна «разарваных» часох грамадзкага самападману, нацыянальнага заняпаду многія суродзічы ўспрымалі імя маскоўскага беларуса ў якасьці рэальнага сымбалю найлепшых духовых традыцыяў, праявы жывой лучнасьці розных і роднасных эпохаў на суцэльным вызвольным Беларускім Шляху: «нашаніўскай» — Купалы, Коласа, Луцкевічаў; «узвышэнскай» — Бабарэкі, Чорнага і сучаснай — Мележа, Караткевіча, Улашчыка. Ня дзіўна, што і дом, і «маскоўская» Беларусь вучня і наступніка Ластоўскага, Пічэты, Доўнар-Запольскага служыла не аднаму праўдашукальніку незаменным духовым прытулкам, якога бракавала ў афіцыйным Менску, дзе нават ад беларускага маўленьня сьцінала скіўіцы ня толькі ў службоўцаў ад палітычнага вышуку, але, кажуць, і ў тагачаснага дырэктара Інстытуту гісторыі.

Надрукаваныя працы Ўлашчыка некалі дапоўняцца ягонай абнародаванай эпісталярыяй, многімі другімі матэрыяламі з архіву вучонага; зьбяруцца ўспаміны сучасьнікаў... Наколькі ж тады ў шырэйшым, выразьнейшым абсягу ўвідавочніцца нашчадкам постаць нашага мысьляра-Грамадзяніна. І, пэўне, — глыбей спасьцігнецца неабарачальнасьць, нязломнасьць нашага адвечнага руху, званага Беларускім Адраджэньнем, якому ўсё сьвядомае жыцьцё слугаваў мужна і аддана Мікалай Улашчык.

Насоўваецца, такім чынам, яшчэ адно, магчыма, найбольш сутнаснае вызначэньне ягонае фігуры: Адраджэнец. З гэтага, ад-



раджэнчага пункту гледжаньня ў жыцьцяпісе Ўлашчыка не заўважаеш нічога выпадковага. Пачынаючы зь першых крокаў на самастойным шляху, якія сёньня, з рэтраспэктывы часу, успрымаюцца даволі заканамернымі, прадвызначанымі. У няпоўныя дваццаць бярэцца ён за працу ў Дзяржаўнай бібліятэцы рэспублікі, сумяшчаючы яе з вучэньнем ува ўнівэрсытэце. Але наколькі амбітна, па-дзяржаўнаму далёкабачна прыступае да справы малады бібліятэкар-студэнт, відаць хаця б па запісцы (1925), падрыхтаванай ім у Народны Камісарыят асьветы БССР аб выданьні «Незалежнага Летапісу Беларускага Друку», матэрыялы для якога — за 1924-пачатак 1925 гг. — ім жа, адначасна сакратаром беларускай Кніжнай Палаты, былі «цалкам падрыхтаваныя» для друкаваньня (Архіў Нацыянальнай Акадэміі Беларусі. Ф.62, в.1, спр.2, арк.90 адв.).

А вось яшчэ дакумэнт, з таго ж, «акадэмічнага» архіву (фонд Інстытуту Беларускай Культуры), пад назвай «Сьпіс сяброў літаратурнай сэкцыі Інбелкульту», дзе прозьвішча Ўлашчык[1] значыцца ў адным хаўрусе з Барычэўскім, Бібілай, Бабарэкам, Язэпам Пушчам, Зарэцкім, Гурлом, Галубком, Альбэртам Паўловічам...

Сустракаем Улашчыка, аднаго з арганізатараў унівэрсытэцкага краязнаўства, сярод дэлегатаў Першага Ўсебеларускага краязнаўчага зьезду (люты 1926 г.) — ізноў жа ў грамадзе надта прыстойнай: Даўгяла, Доўнар-Запольскі, Дружчыц, Жылуновіч, Эпімах-Шыпіла і інш.

Безумоўна, знаходжаньне ў эпіцэнтры культурнага жыцьця тагачаснае Беларусі магло толькі станоўча ўплываць на станаўленьне сьветагляду, дасьледчыцкія пачынаньні будучага вучонага, увогуле на самавызначэньне маладога Мікалая Ўлашчыка як сьвядомага й перакананага ў думках і дзеяньнях беларускага інтэлігента. Гэтаму ж станаўленьню спрыяла ў пэўнай ступені і тагачасная ўрадавая нацыянальная палітыка — прыхільная «як ніколі раней і ніколі пазьней», паводле ўспамінаў самога навукоўца, разьвіцьцю беларускай літаратуры, усяе культуры.

Так што і прыватная, «застольная» сустрэча купкі студэнтаў, у тым ліку і Ўлашчыка, з «старымі» Янкам Купалам, Вацлавам Ластоўскім, Язэпам Лёсікам, наладжаная ў доме апошняга

Інай Рытар, будучай пісьменьніцай Аляксандрай Саковіч — факт таксама і паказальны, і сымбалічны. Пэўне, зь ёю, найбольш мабільнай творчай руньню на беларускім палетку, лучалі старшыя дзеячы-адраджэнцы патаемныя надзеі адносна будучыні Бацькаўшчыны.

І вось улетку 1930 году, падчас знанага пагрому над беларускай духовай элітай, у засьценках, а дакладней, паводле Аляхновічавага вобразнага вызначэньня, «у кіпцюрох ГПУ», разам з найбуйнейшымі асобамі краіны апынуўся і нядаўны выпускнік унівэрсытэту Мікалай Улашчык. У падзеле роляў, а значыць і правінаў «выкрытых» удзельнікаў «Саюзу вызваленьня Беларусі» яму інкрымінавалася адна з адказных: арганізатар працы сярод маладзёжнай часткі СВБ. Магчыма, з гэтай нагоды маладому патрыёту выпала правесьці колькі месяцаў у адной камэры з Ластоўскім (кранальнае слова-спамін пра сумоўе за кратамі з найбуйнейшым беларускім дзеячом і творцам незадоўга да сваёй сьмерці Ўлашчык пасьпее пераказаць нашчадкам). Але і ў гэтай зласьлівай ухмылцы лёсу ці не было свае парадаксальнае лёгікі — спрадвечна мулкай іроніі Беларускага Адраджэньня: церні, выгнаньне, крыж...

Талент ягоны зьдзейсьніўся за межамі Бацькаўшчыны. «Такі ж я нешта зрабіў», — сьціпла падагульняў ён пражытае і перажытае. У размовах зь сябрамі, блізкімі, неаднойчы і не бяз смутку разважаў: добра, што апынуўся тут, у Маскве; у Менску не дазволілі б зьдзеяць і сотае долі зробленага. Не хацелася б варушыць балючай раны-праблемы прарока й радзімы. І ўсё ж аднае вярэдлівае развагі цяжка ня выказаць. Стрыманы звычайна ў эмоцыях, гэты чалавек ня ў стане быў утаіць хваляваньня, нейкае шчымлівае тугі, калі гаворка заходзіла пра мажлівасьць вяртаньня колішняга выгнаньніка на родны палетак. Але шлях на Бацькаўшчыну яму рашуча, ня раз бесцырымонна блякавалі некаторыя — зь мясцовых — «пільныя» начальнікі («гісторыкі») ад навукі.

Тым значней падмога расійскага навуковага асяродзьдзя, у якім зьдзейсьніўся беларускі гісторык. Адкрытая ім Беларусь — факт таксама прыкметны — была зразуметая, падтрыманая найбуйнейшымі расейскімі гісторыкамі: Беражковым і Дружыніным, Ціхаміравым і Грэкавым, Нечкінай і Чарапніным, Пашутам і Зіміным, Буганавым і Шмідтам. Іхныя прозьвішчы, многіх другіх калегаў па Інстытуце гісторыі Мікалай Улашчык неаднойчы згадваў зь цеплынёй і ўдзячнасьцю. Менавіта Ўлашчыкава беларуская самабытнасьць, увасобленая ў ягонай мове, лагодным характары, далікатнасьці паводзінаў, урэшце, у навуковай учэпістасьці, цягавітасьці здабылі яму сярод маскоўскіх і ня толькі калегаў пашану і сьветлыя ўспаміны. Словам, перад намі той самы выпадак, калі міжнацыянальная адрознасьць і крэўнасьць здольныя — у гарманійным спалучэньні — даваць добры плён на палетку ўзаемнага духовага збліжэньня, у прыватнасьці, расейска-беларускага.

*сьнежань, 1995 г.*

---

[1] *Найверагодней, тут пад прозьвішчам Улашчык маецца на ўвазе старшая сястра нашага гісторыка — Ніна, на той час студэнтка этноляга-лінгвістычнага аддзяленьня БДУ, настаўніца, пазьней жонка вядомага лексыкографа Івана Бялькевіча; у 1938-1945 гг., усьлед за мужам, была рэпрэсаваная і высланая на Калыму за адмову супрацоўнічаць з НКВД у якасьці інфарматара (з апаведу Вольгі Ўлашчык). Стараньнямі абаіх Улашчыкаў, сястры і брата, а таксама сына і дачкі І.Бялькевіча — Усяслава і Людмілы — удалося захаваць рукапіс, падрыхтаваць да друку і, пры падтрымцы Інстытуту мовазнаўства АН БССР, выдаць пасьмяротна ягоны «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» (Менск, 1970).*

## РОЗДУМЫ НА СХІЛЕ

Многія з блізкіх знаёмых Улашчыка захапляліся ягоным дарам апавядальніка. Слухаць яго заўсёды была асалода, хаця часам і зьмяшаная з гарчынкай. Усім вабіў, прыцягваў суразмоўца. Высокай, асілкавай постацьцю, гожым абліччам. А найперш — легендарнасьцю свайго няпростага жыцьця, дарэшты, мабыць, выпрабаванага на чалавечнасьць, беларускасьць, вучонасьць, на іншыя прыкметныя якасьці ў гэтым абаяльным чалавеку.

Большасьць гадоў выпала яму правесьці за межамі Беларусі. Увесну 1931 году, пасьля карнай апэрацыі ГПУ над беларускай творчай элітай, нядаўнаму выпускніку ўнівэрсытэту давялося падзяліць выгнаньніцкі лёс з найбуйнейшымі патрыётамі-адраджэнцамі — Вацлавам Ластоўскім, Язэпам Лёсікам, Мікалаем Азбукіным, Максімам Гарэцкім, Адамам Бабарэкам, Уладзімерам Жылкам... Усіх не пералічыць.

І ўсё ж Улашчыку пашчасьціла. Праз пакуты, выпрабаваньні, але вытрымаў, выжыў. Каб сказаць сучасьнікам і нашчадкам праўду за сябе ды за тых, хто не вярнуўся. Улашчыкава праўда —Беларусь. Ім створаная магутная Краіна Духу — з уласнай вялікай гісторыяй, высокай культурай, з мужным і працавітым, сумленным і дасьціпным народам. Краіна, непадуладная размавітым пігмэям, духовым карузьлікам — колькі б тыя ні нявечылі, ні аплёўвалі ейную плоць і душу.

Размоўцу нашага ўспрымаеш жывым увасабленьнем найлепшых рысаў суродзічаў. Такім сабе Беларускім Асьветнікам, навуковцам, заклапочаным адвечнымі пытаньнямі беларускімі: мінулым і будучыняй, роднай мовай, нацыянальнай годнасьцю, наогул гістарычнай трывушчасьцю Беларусі як самастойнае краіны, самабытна-непаўторнага тыпу духовасьці. Пытаньні гэтыя, як заўважыць чытач, і складалі вядучую, скразную тэму роздумаў гісторыка, ці, як мы ўжо сказалі, беларускага асьветніка.

Па-рознаму можна разглядаць прапанаваны жанр: успаміны, развагі, думкі ўслых... Але рэч не ў фармальнай дэфініцыі, а хутчэй у сутнаснай напоўненасьці тэксту. «Казаў Улашчык» — гэтага, лічу, дастаткова. Тым болей, што ў творчай спадчыне нашага Асьветніка не заўважаеш нічога дробязнага, малавартаснага. Бадай ці ня ўсё ім напісанае, прамоўленае поўніцца думкамі і сэнсамі, спасьціжэньне якіх будзе займаць, пэўна, яшчэ не адно пакаленьне беларусаў.

Зьмешчаныя ніжэй нататкі — вынік сустрэчаў, гутарак з навукоўцам на працягу апошніх чатырох гадоў (1983-1986) ягонага жыцьця. Спрыяла нашым кантактам апрача ўсяго і суседзтва ў Маскве, паблізу Беларускага вакзалу. Запісы звычайна рабіліся мною ў працэсе размовы або адразу ж пасьля яе. Фактычны зьмест, стыль маўленьня суразмоўцы (хадзеце, уявеце, гадох...) аўтэнтычныя, амаль дакладныя. Кажу «амаль», бо дакладнасьць не стэнаграфічная. Тым ня менш, усё тут Улашчыкава: думкі, словы, настрой.



Мне заставалася толькі сыстэматызаваць сказанае, даць загалоўкі, па мажлівасьці адэкватныя закранутым пытаньням.

## БАЦЬКІ, РАДЗІМА

Бацька ведаў на сто кілямэтраў ад нашай Віцкаўшчыны ці ня кожан паварот — дзе ехаць, дзе зварочваць. Казаў нам, дзецям, пра замак Чапскіх, пасьля Прылук, на самым узгорку. Дадумаліся пазьней — пад дом адпачынку аддаць. Няхай бы пад гістарычны музэй. Яшчэ на маёй памяці заставаліся парабчанскія хаты ў Прылуках. Замест каб апісаць, як парабкі жылі, дык яны «спачуваюць» ім. А гумно ў 1922 годзе спалілі з усёй маёмасьцю.

***

Бацька вельмі за капейку трымаўся. Але прачытаў больш за сотню кніг. У Менск езьдзіў разы два на месяц да прыватнай бібліятэкі Станішэўскага. Браў за невялікую плату колькі кніг і чытаў вечарамі, над «Ганнай Карэнінай» плакаў нават. Ад бацькі і дзеці, пакуль у школу хадзіць, чытаць панавучваліся.

Сфатаграфаваўся ён з братам маім старшым, які на лесьніка вывучыўся — паністым стаў! Бацька сядзіць, у manішцы з гальштукам, брат за ім стаіць. Дык я пазьней забраў той здымак і ў мастацкае фота занёс: асобна бацькаў партрэт зрабіць. Усе глядзяць: які ж гэта мужык? Панам глядзіцца! А гэты «пан» праз усе гады тапара ці гэбліка з рук не выпускаў. За што і раскулачылі, саслалі ў Котлас. Паміраць дамоў адпусьцілі. На могілках нямецкіх у Менску пахаваны. На пліце радня надпіс зрабіла: «Мікалай Фэліцыянавіч Улашчык. 1861-1934». Зянон Пазьняк кажа, мусіць, гэта адзіны надпіс надмагільны па-беларуску. Цяпер на месцы пахаваньня клюмбу зрабілі.

А дзедавы магілы — там, у Віцкаўшчыне. Каб і мой попел — туды.

***

Маці, Соф'я, — яна зь Іваноўскіх, з-пад Шчорсаў паходзіла.

Так што я ў пэўным сэнсе таксама навеградзец. Янку Брылю кнігу сваю падпісаў — як земляку.

Добрай, далікатнай была наша маці. І строгай, калі трэба. Трымалася свайго кодэксу пэдагагічнага: дзяцей шкадуй, але і волі залішне не давай. Як каторае правінілася — дубец зь веніку напагатове. Не сказаць, каб часта, але, здаралася, дубцы хадзілі па сьпінах. Пакаранаму ж балела ня гэтульки ад дубца, як ад таго, што дражнілі сёстры ці браты: «Зарабіў? Хвасанула мама!» Крый Божа, каб пры матулі хто лаяўся або ўспамінаў чарта. Заўсёды — рана і ўвечары — дзеці чыталі пацеры. Калі падрасьлі, перасталі хадзіць да споведзі — маці надта перажывала.

***

У 1912-м, на Новы год, у Самахвалавічах ёлку ставілі. Там нейкі хлапец «Горад і вёску» напамяць прачытаў. Прыйшоў брат дамоў, прачытаў, і я ўсё таксама запомніў. Сёстры — ім ня менш спадабалася, адразу запомнілі. Такое было ўражаньне моцнае:

Бог хоць раз прывёў Гаўрылу ў велькім горадзе пабыць,
Але мілу сваю вёску не магу ніяк забыць.
Як я доўга не пабачу сваю хату, поле, луг,
Жаль і гора, чуць ня плачу, тут я целам, тут мой дух.
Там табе усе знаёмы, свой парадак, свой народ,
Не ляпей нідзе як дома — тут дзень пройдзе як там год.
Прыйдзе сьвята, у цэркаў сходзіш, пасьля ляжаш, аддыхнеш,
У поле сходзіш, там паходзіш, неяк проста аджывеш...

***

Я не любіў — цягнікох. Ад Фаніпалю — пехатой, кілямэтраў дваццаць гасьцінцам. Дарога паўз самы плот маёнтку. Лебедзі яшчэ плавалі ў Пцічы. За Пцічу адразу ж — паштовая станцыя.

А ці знаеце — ніхто дагэтуль не зацікавіўся — недалёка ад Прылукаў вёска Скарынічы, хіба ад Скарыны. Ад Скарынаў пайшлі дзеці, унукі, праўнукі... Так і вёска ўтварылася. А які лес быў! Гасьцінцам ідучы, — сьпярша Лошыца, за ёю, кілямэтры праз два, Сеньніца, убок троху — Каралёў Стан. Назва чаму такая, ведаеце? Як ішло войска Жыгімонта на Маскву тут, па-цяперашняму кажучы, стаўка каралеўская была...



Недалёка — Воўкавічы. Цяпер гэтыя начальнікі, хай іх халера, перарабілі на Валчковічы! І скрозь лес Скарыніцкі. Вясною да таго лесу падыходзіш, сэрца ад хараства млее. Ня ведаю лесу, дзе б так гожа птушкі сьпявалі. У 1921 годзе быў загад Троцкага рыхтаваць лес на паліва для чыгункі, дык я хадзіў на пілаваньне... Далей ішоў лес Прылуцкі, куды горшы — цяпер кемпінг там зрабілі. Балоціста там было і, вядома, «нячыстая сіла» вялася. Коні гразьлі, вясной трэба было далёка аб'яжджаць. А Скарыніцкі — на высокім месцы. Зяблікі, зязюлі, а жаваранкаў... адусюль, здавалася, туды пазьляталіся, — такі галас густы, пералівісты! Вось пішу да сястры: помніш, як мы праз Скарыніцкі лес хадзілі?..

ЗАКОН БОЖИЙ

У школе на «законе Божьем» скрозь чаўплі: даж нам днесь... Ну, вучылі, зубрылі, а што гэты «днесь» значыць, ніхто ня ведаў. Або — «жертва». Бубнілі сабе «жертва», «жертва», ня ведаючы, што гэта такое. І ўсё яно, выкладаньне рэлігійнае, чужое, незразумелае, адштурхоўвала толькі дзяцей. Але няможна было спаць легчы, пакуль гэтыя пацеры не прагаворыш. Усе, бачыце, лічылі, што з Богам гаварыць на сваёй, зразумелай мове нельга, а толькі — на мудрай, недаступнай. Дык вось вам і 400, і 500 гадоў, а зьмен ніякіх. Толькі ў Закарпацьці, сярод уніятаў, прынялася свая мова ў царкве.

НАСТАЎНІКІ

У Менску пры Пілсудзкім дзьве беларускія школы адчыніліся: пачатковая — 3-клясная — і сярэдняя (рэальная). Мая мара была трапіць у рэальную вучэльню: надта ж прыгожая была форма ў рэалістаў. Але адзінка па арытмэтыцы на ўступным экзамене ўсё перакрэсьліла. Што ўжо адплакаў тады... Так я апынуўся ў пачатковай. У трэцяй клясе — 1919 год — да нас трое настаўнікаў новых прыйшло. Шнаркевіч Язэп — мову і літаратуру беларускую весьці, Гурскі Міхась — пазьней дырэктарам Купалаўскага тэатру працаваў, зь ім мы на высылцы, у 31-м, ад Мядзьведзева да Кацельнікава ў адным човене плылі, а трэці — Тэраўскі, сьпевы выкладаў, — маленечкі такі, лысы.

Дык ведаеце, гэтаму Шнаркевічу спатрэбіўся які месяц, каб з нас «русский глянец» дашчэнту зьлез. Дагэтуль жа ледзь ня кожан з вучняў наровіў падкрэсьліць сваю «нетутэйшую» культурнасьць. Было троху шляхцюкоў, троху жыдкоў, пераважна з гораду, а рэшта — прасьцейшыя, зь вёсак колькі чалавек. Аднаго разу прачытаў быў «Горад і вёска» Сігізмунду, аднаклясьніку. Той старэйшы быў, гадоў мо 18, вечарамі ў рэстаране афіцыянтам прырабляў ужо. І ўявеце сабе, выслухаў гэты шляхцючок маю дэклямацыю, але ж як паблажліва: «Я простой язык понимаю». —Вось і ўсё яго ўражаньне. Мне ж рупіла паказаць, што і я адукаваны, ня горш за іншых, а тут...

Пасьля, як прыйшоў Шнаркевіч ды пачаў чытаць нам «Дыямэнты беларускай паэзіі», затым «Родныя зьявы» Коласа... А сьледам за настаўнікам і вучні пацягнуліся да беларускага слова. Памятаю, у клясе ўголас чыталі «На Вялікдзень». Не паверыце, а чытаньне тое і праз шэсьцьдзесят гадоў да драбніц помніцца: «Ноч была ціхая, цёмная, цёплая...» Надта ж гэта да душы прыпала, што велікодная ноч зазвычай бывае і цёплая, і ціхая. І вось гэты Шнаркевіч пазаймаўся з намі якіх з паўгоду, а як жа развярушыў пачуцьці, фантазію — пад настаўніка ледзь ня кожан мкнуў раўняцца. Пра Нямігу колькі ён цікавага распавядаў, здаецца, тады — «Слова аб палку Ігаравым» упершыню пачуў як беларускі твор. З Шнаркевічам я пасьля спаткаўся ў Вільні — у 1966 годзе. Меў ужо сваю кнігу — прывёз яму.

Тое ж самае і з Тэраўскім — ці не ўпершыню пачалі мы, вучні, па-беларуску сьпяваць.

А ў бары-бары тры дарожанькі,
тудою ішлі тры жаўнерыкі...

Гэта ж спазьніўся быў на лекцыю ці што, ня помню ўжо, але ў клясу не пайшоў. І вось стаю на калідоры пад дзьвярыма і слухаю, як яны ў клясе сьпяваюць — ладна так, стройна «А ў барыбары...» І крыўда нейкая агарнула, памятаю, мяне, што яны там сьпяваюць, а я за дзьвярыма стаю.

***

25 сакавіка 1920 году — вясною было, помніцца, сонечна.



Вывелі нас, вучняў, на вуліцу — сьвята, кажуць. Што за сьвята, — пытаемся. Дзень Беларускай Народнай Рэспублікі, —такім макарам і першае маё дзяржаўнае сьвяткаваньне ад іх —ад Шнаркевіча і Тэраўскага. Тады ж з нашай клясы тры чалавекі пайшлі ў Беларускае войска. Форма звычайная, але на шапках —Пагоня. Глядзелася! І нам, маладзейшым, зайздрасна было. Бядуля ж Зьмітрок маёрам Беларускага войска быў. І Леніна, і бальшавікоў сьцябаў, але не кранулі яго, пранесла...

### РУСЬ-ЛІТВА-СКАРЫНА

Скарына, бачыце, пачаў друкаваць кнігі. Але ж існавала ўжо багатая рукапісная традыцыя, зь якой ён вырас. Дык вось паспрабуйце ўявіць сабе — зь якімі рукапісамі знаёміўся Скарына. І якой кніжнасьцю — і рукапіснай, і, магчыма, друкаванай — Полацак тагачасны жыў, і што мог чытаць малады Францішак. Відаць, і летапісы ведаў ён. І ў самым Полацку вельмі верагодна, што вялося летапісаньне. Урывак, на які спасылаўся Тацішчаў, наўрад ці выпадковы. Тое ж самае і з друкаванымі кнігамі — у Скарынавы часы траплялі яны на беларускія землі. Калі б прааналізаваць Скарынавы прадмовы, іншыя яго тэксты — можна натрапіць на якія ўскосныя зьвесткі — што ён чытаў. Але ж трэба чытаць ды перачытваць: ня пяць, ня дзесяць, а хаця б разоў дваццаць. За кожным такім перачытваньнем нешта новае заўважаеш.

***

Скарына — ён жа і дзяржаўнік, ня толькі перакладчык Біблії. «Братия мои русь» — гэта ж пісалася, калі Літва спрабуе стаць цэнтрам усяе рускае дзяржавы, палітычна кансалідаваць рускія землі, насуперак Маскве. Адсюль і Смаленск — цэнтар рускалітоўскага летапісаньня. Чаго ня могуць зьняпраўдзіць Абэцэдарскі і вучні, скрозь у іх адно і тое ж: Літва дэнацыяналізоўвала Беларусь. Падумаць толькі — пануючы народ дэнацыяналізуецца.

***

Кажаце пра граматнасьць таго [Скарынавага] часу. Вядома, не па цяперашніх крытэрах яе вызначаць. Але ж як на тую пару,

узровень пэўны быў. Гэтулькі пісалася папер розных – грамат, соймавых, судовых рашэньняў, позваў і г.д. Нехта ж пісаў, нехта ж павінен быў чытаць, выконваць. I гэтае мноства паперы, пэўна, не на абгортку прадукавалася. Іх развозілі па гарадох, мястэчках, дварох шляхецкіх. Нават спэцыяльныя ўраднікі дзяржаўныя прызначаліся для гэтае справы – баяры путныя і путныя слугі, слугі ліставыя.

А вазьмеце Полацкія граматы. Колькі ж папалена, панішчана дабра нашага, але ж нешта яшчэ засталося. Харашкевіч іх [граматы] надрукавала. Маглі б і ў Менску, ці, яшчэ лепш, у Полацку выдаць, ды дзе вы бачылі! Там наўрад ці прачытаюць – начальнікі ад навукі. Ня ўпэўнены, ці прачытаюць іх хоць ува ўнівэрсытэце [Беларускім]. I ня сорамна прахвостам гэтым – чалавека, які адзін выдаў працы Пічэты – чаго ўвесь унівэрсытэт не зрабіў – не пусьціць на пічэтаўскія чытаньні! А Ж. – іхны тапаніміст галоўны, ён жа ніколі, відаць, ня чуў пра Акты Віленскай Камісіі – пяцьдзясят шэсьць тамоў! Гэта ж трэба – галоўнай працай назваць «Книги по большому чертежу», дзе ўсяго толькі 15 назваў па геаграфіі Беларусі. А прачытайце Ч. пісаніну… Скрозь – абэцэдаршчына.

А Вы кажаце пра вяртаньне [у Беларусь]. Дык жа яны ўсе гуртом і ўва ўнівэрсытэце, і ў Інстытуце гісторыі пад мой прыезд з дручкамі б сталі.

***

Русь… Ці была ў часы Скарыны розьніца паміж Украінай і Беларусьсю? Тады і Магілёў, і Валыншчына было тое самае. Любаўскі піша: літоўска-руская дзяржава не саступала ў магутнасьці ніякай другой. А вайсковая дэмакратыя ў Літве —высака стаяла. Цяпер жа ў беларускіх публікацыях, хай іх халера, так і пішуць — «прастол». А было ж скрозь «сталец». Наваградак — першая сталіца (XIII стагодзьдзе), з часам уступае ў саюз зь Літвой. Але Літва — толькі дапаможная сіла, а кіруючая — наваградзкая дзяржава. Раскопкі наваградзкія, культура — сьляды, якіх нідзе няма.

***

Ведаеце, у Летуве кніга мая (Уводзіны ў беларуска-літоўскае летапісаньне, М., 1985, на рас. мове) захапленьня ня выкліча. Бо ў ёй – Беларусь, Наваградак галоўнае. У XIII стагодзьдзі ў Наваградку – наймацнейшая крэпасьць і ўсе татары на яе скрозь ішлі. Дзяржава Літоўская ня зь Вільні расла, а сілай Наваградчыны.

***

Унія Літвы з Польшчай. З падручніку ў падручнік: імкненьне польскіх фэадалаў на Ўсход. А тое, што Літва мусіла бараніцца ад Усходу, ад Масквы — ціша.

Гэтаму пстрыкачу з унівэрсытэту я так і напісаў: ня трэба хаяць Каяловіча, бо розьніца паміж Вамі і Каяловічам у тым, што Вы спасылаецеся на Маркса, а Каяловіч — не.

***

Як я гляджу на Ермаловічаву легенду аб заваёве беларусамі Літвы? Гіпотэза карысная. Бо змушае перагледзець устарэлыя погляды. I маладым імпануе — не яны нас, але мы іх. Але ж спраставаць даўнюю канцэпцыю — няпроста. Лацінку трэба ведаць і не абы-як, а навукова; летувіскую мову старажытную, нямецкую, старaславянскую, летапісы — так, як ведае іх Лаўмяньскі. Шкода, унівэрсытэт далёкі ад гэтых справаў.

***

Значэньне валочнай рэформы вялізнае. Ад каралевы Боны ўсё пачалося. Яна ж прывезла з сабою землямераў. З таго часу пайшлі ў нас хутары. Хутар – гэта ж фэрма. Невядома, чаму ўва ўсім сьвеце фэрма – гэта добра, а ў нас хутар нібы якая нячыстая сіла. Вунь пісакі і «Нашую Ніву» памыямі гатовы абліць за тое, што хутары прапагандавала. Вы б паглядзелі на Англію XV-XVI стст., тамашнія гаспадаркі – гэта ж наша Віцкаўшчына. 500 га – на 42 участкі. I з кожнага участку нарэзана патроху, каб усім было. А галоўнае – кампактна, адным кавалкам, у адным месцы. Не вазіць жа гной за 3 кілямэтры. Квадрат зямлі, як гэта кніжка перад вамі. На траціну, на чвэрць, бясспрэчна, менш затратаў часу. Ня трэба скаціну ганяць далёка, яна тут, пры сядзібе ходзіць. У нас [у Віцкаўшчыне] свой Лойка быў, у яго 90 га. У Войціка – 80, у бацькі майго –

30га. Значыць – квадраты. Далей, якасьць зямлі – чатыры катэгорыі: добрая, сярэдняя, подлая, надта подлая. У свой час, здаючы экзамен па кандыдацкім мінімуме, пісаў я пра Кобрынскую эканомію. Дык 9/10 усяе зямлі пад Кобрынам лічылася подлай, а цяпер – гэта самая пладародная зямля.

ДАСТАЕЎСКІЯ

Яны ж зь літоўскай шляхты, Дастаеўскія. Пераехалі ў Расію ў канцы XVIII ст. Архіў іх у Дастоеве надта багаты быў. Многае парасьцягвалі, а тое, што засталося – ляжыць у Ленінскай бібліятэцы; па тых паперах можна беларускі скорапіс вывучаць. Дастоева пасьля нейкі прафэсар з Варшавы купіў, дык яшчэ ён на гары сядзібнага дому знайшоў нямала францускіх кніг.

НЁМАН

Заглянуў я неяк у Стоўпцы. Абмялела рака саўсім. Вады ў ёй летам ці не па калена, можа троху вышэй. А сотню гадоў таму Нёман – гэта быў Нёман! Ня проста рака – вялізная дарога водная ў Прусы, у Кралевец. Гэта ж цяпер літаратары на Крулявец перарабілі. Тое ж самае і зь Менскам, Берасьцем – на польскі лад. Маці мая скрозь гаварыла Кралевец і дзед туды, пад Прусы, ня раз платы ганяў.

ДАРЭКТАР

Звыкла папікаюць нас (беларусаў) цемнатой. Такія ўжо былі забітыя, адсталыя — ня вытрымаць. Ды і нашыя вучоныя грамацеі пастараліся тут як ніхто: адзін перад адным шчыравалі — хто лепш няграматную Беларусь (дакастрычніцкую) пакажа. Я спэцыяльна заняўся пытаньнем і даказаў: ня менш 40 працэнтаў насельніцтва краю было граматным, гэта значыць, маглі чытаць і троху пісаць. Рэдка хто зь іх у школу хадзіў — гэта так. Але ж вучыліся. Бацьку вучыў дзед, а дзеда вучыў прадзед. Коласавага «дарэктара» (паэма «Новая зямля») можна было сустрэць у многіх вёсках, на хутарох.

БЕЖАНСТВА

Такая страшэнная драма! Людзей пагналі, палілі вёскі. Па


Janka Kupała.

HUŚLAR

Pieciarburh——1910.

*Янка Купала. Аўтограф на кнізе, падараванай Людаміру-Міхалу Рагоўскаму. Захоўваецца ў польскай Нацыянальнай бібліятэцы імя Асалінскіх (Вроцлаў).*



*Жывом! Будам жыць! Удзельнікі Другога зьезду беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Менск, 1997.*



ўсім сьвеце беларус — на пакідзішча, да Андыжану, Уладзівастоку. Каб гэтую тэму ўзяць было гадоў дваццаць назад. Яшчэ жывыя былі людзі, якія бежанства перанесьлі ў першую [сусьветную] вайну. Маглі б вучні распытаць іх — дзе былі, як жылі. Трэба было праз газэту. Гаварыў я пісьменьнікам, у Інстытуце гісторыі. «У вас такая ідэя, то і рабеце», — вось так. А Т. і гаварыць ня стаў. Мне восем ці дзесяць школьніц ад сваіх бабулек успаміны даслалі. Зоська Верас зь Вільні меркаваньні выказала. Але ж работа вялізная, усенародная, лічыце.

***

Як паехалі ў сьвет — знайшлі сваю нацыю. Скрозь жа дома звалі сябе рускімі. А тут у Тамбове ці Саратаве ім, не без насьмешкі: «Какие же вы русские, — по-русски и говорить как надо не умеете». У нас, у Віцкаўшчыне, падчас першай вайны салдаты стаялі. «Вы кто?» — у мацеры пытаюцца. «Мы рускія», — адказвае. «Какие вы русские! Вы — поляки!» — і на ікону ўніяцкую, на куце, паказваюць.

### МОВА. ШКОЛА. БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

Самае хворае ў нас месца — мова. Трэба ж! У школе толькі з трэцяй клясы вучыць матчынаму слову дазваляюць. Даехалі!

Ведама, у нас жа скрозь лічылася: правільна — па-расійску, далікатна — па-польску.

Быў я на бацькавай радзіме. У Дзяржынску заходжу ў музэй. «Дык чаго ж вы, — пытаюся, — не маглі па-беларуску напісаць?» Ш., дырэктар школы — з нашай жа вёскі, але ж, бачыце, «правільным» стаў. Што яму беларускае — начальства злавацць.

Некалі дырэктару школы ў Клецак я паслаў «Хроніку Быхаўца». Адказаў чалавек, таксама культурны і ў паперах дасьведчаны: «Очень благодарен за книгу».

***

Жыдкі, кажаце. У 25-м, 26-м годзе, як пайшла беларусізацыя, дык яны вунь як стараліся. Шыльды на сваіх крамах — толькі па-беларуску: «Дробны гандзюль...» Тады ж ніводнага шыльду не было, каб не па-беларуску.

Го! у тыя часы — вы ж ня памятаеце — беларусіцца модна было. Хто ня ўмеў — стараўся.

***

Усякія былі і тады. Але не было горшага, як гэты Вальфсон і навакольле. Чыстая банда! Сербаў ніколі слова па-беларуску не сказаў, а яго зрабілі прафэсарам. Гомельскія, бабруйскія крамнікі... Та ж іхныя сыночкі ў пралетароў перарабіліся. Ну й муштравалі народ «клясавай пільнасьцю».

***

У 1930-м на беларускай мове выйшла 1 300 кніг. Цяпер, калі нас у два разы пабольшала, выходзіць 300-400, і то толькі ў апошнія чатыры гады.

***

Але ж глядзеце, попыт на беларускую кнігу як узрос! Гадоў дваццаць таму выдалі «Слуцкія паясы» — па два рублі ацанілі, пазьней — па 20 капеек. Але марудна йшлі. Троху прадалі, рэшту — на макулятуру. Каб цяпер гэткую кнігу, у 3 тысячы экзэмпляраў, на прылаўкі, — пэўна, у дзень-другі разабралі б. Хоць і лухты ў тых «Паясох» — сорам чытаць: «Значэньне пояса ў быце рускага і беларускага народаў...» Без аглядкі на Маскву нават пояса «завязаць» не патрапяць.

***

Чаго жадаў бы, пытаецеся. Каб большала працаўнікоў добрых. Але найперш, каб стварылася сапраўдная беларуская школа. На гэтым жа ўсё трымаецца. Па сабе ведаю: адзін настаўнік усю нашу школу некалі перавярнуў.

Агняцьвет-Каган кажа, што ў іх беларускую літаратуру выкладаў Кернажыцкі. Сьмяяліся тады — якая ў тых беларусаў гісторыя... У 1925-1926 гадах зьбіраліся вакзал у Менску рэканструяваць, у беларускім стылі, казалі. А якім гэты стыль павінен быць, толкам тады мала хто ведаў. Той-сёй падсьміхаўся: гняздо буськліна ўзьнясіце над дахам — вось вам і стыль беларускі. Жарты жартамі, але што ні рабілася тады — усё было ў навіну, выклікала цікавасьць.



ПЕРАКЛАДЧЫК

Пераклаў я «Детство Микиты» — ужо мяне былі пасадзілі, як кніжачка выйшла. Але ж тады яшчэ настолькі быў я неабчытаны —ня ведаў нават, што «Жаўтухін» — гэта ўрывак з апавяданьня. У 1929, як мяне прагналі зь Менску, я паехаў да брата ў Ленінград, а ў брата — увесь Талстой, нават Дастаеўскі, якога ня ў кожнай бібліятэцы можна было дастаць. Сама — чытаць, перакладаць... Праз год які забралі мяне і — ужо пад канвоем — назад, у Менск. Так мае пачаткі перакладчыцкія і засталіся пачаткамі.

ЛАСТОЎСКІ

У Вільні ў 1914 годзе таргавалі друкарню. Тады ж там выходзіла 58 пэрыядычных выданьняў — «Памятная кніга» сьведчыць. Але шрыфты былі ўжо занядбаныя, таму некаторыя ўладальнікі сьпяшылі пазбыцца свае маёмасьці. Гэта Ластоўскі казаў: назьбіралі між сабой беларусы 20 тысяч рублёў — каб друкарню набыць. А тут вайна недарэчы наехала. Я не дапытваўся, адкуль тыя грошы назьбіраліся, калі нашаніўцы — і выдаўцы, і рэдактары — жылі нэндзна, бульбай з капустай перабіваючыся. Гэта цяпер К. ды Л. іх багацеямі, а то і нуварышамі выстаўляюць. Многа гадоў пазьней даведаўся я ад Царыка, адкуль тыя грошы былі —Магдалена Радзівіл памагла. Царык — ён жа юрыстам-кансультантам «Нашай Нівы» лічыўся, памёр, 94 гады меўшы.

***

Ластоўскі — не раўнуючы — найбольшы з таго часу. У адной жа камэры зь ім прасядзеў на пачатку 1931. Пра Івана Луцкевіча надта ж добра адзываўся Ластоўскі, пра Антона — ня вельмі. «Крывіч» яго я скрозь чытаў. Тады ж было проста — ляжалі нумары ў бібліятэцы, прыходзь, хто хоча, — чытай. Ягоная «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» — яна ж рабіла ўражаньне! У бібліятэцы, як толькі атрымалі з Коўні, яе часта выстаўлялі. Студэнты, пісьменьнікі, настаўнікі ня раз прыходзілі, каб толькі паглядзець, пагартаць гэтую кнігу. Самому тады, у дваццатыя, ня выпала прачытаць яе як належыць. У Вільні адразу пасьля вайны натрапіў на яе ў букініста —

250 рублёў, каля 5-ці цяперашніх. Але ж тады — гэта траціна мае асьпіранцкае стыпэндыі. Кнігу ўзяў і вось чытаю, перачытваю каторы дзясятак гадоў. Па кнігазнаўстве нашым нічога падобнага па грунтоўнасьці дасюль не было і, пэўна, доўга яшчэ ня будзе.

Ён жа, Власт, і ў жыцьці быў практычны, дасьведчаны. Помню, расказваў, як лепей бярозавік спажываць. У бочку, цэбар, як пачне пеніцца, сыпануць аўса. Зерне ня тоне, зьверху па нейкім часе і прарастае. Летам праupслую скарынку зрываюць — у сьпякоту дык няма смачнейшага!

***

Казаў, помню, як студэнты нашыя ў Пецярбургу — у 1913 ці 14-м — «Валачобнікамі» Шахматава расчулілі. Сабраліся гуртом маладыя, Тарашкевіч сярод іх, і да акадэміка проста на кватэру, павіншаваць. Ён жа прафэсарам быў ува ўнівэрсытэце, беларусам спрыяў. Вось і прасьпявалі хлопцы свайму настаўніку, проста з парога:

Ішлі, прыйшлі валачобнікі,
Іграючы, сьпяваючы,
Дружна пана гукаючы.
Да ці дома, пане гаспадару?
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.
Калі дома, сядлай каня,
Хрыстос васкрэс, Сын Божы.
Сядлай каня, едзь на поле:
Па твайму полю сам Бог ходзіць,
Сам Бог ходзіць, ды ніва родзіць...

Слухаў, слухаў гаспадар, ажно заплакаў, гэтак быў узрушаны, рады. Ну, адразу ўсіх да стала і, казалі, так частаваў шчодра, міла, як ніхто, ніколі.

***

Уся, бачыце, небясьпека, што поперак рэвалюцыі стаў дзясятак Ластоўскіх. Дык у іх не было аніводнага салдата, ні стрэльбы для аховы. А палошчуць людзей колькі часу, не перастаюць —ворагі, нацыяналісты. У нацыяналістаў жа гэтых толькі і віны: хацелі быць беларусамі і ў Беларусі жыць па-беларуску.



ЕЗАВІТАЎ

Відны быў хлопец. І талент — не па гадох: ад паручніка — да палкоўніка, хуткі ўзьлёт. І выглядаў на добрага эўрапейца — і фігурай, і манэрамі. Латышам, казалі, вельмі імпанаваў сваёй паставай. Нашы зь Менску — Іван Цьвікевіч казаў — як прыехалі да яго, ледзь ня лёрда ўбачылі. Гожа глядзеўся.

СМОЛІЧ

Гэта ж стаім мы, першакурсьнікі, толькі што залічаныя, на калідоры, ля акна. Падыходзіць дзядзька нейкі — мажны выглядам, у гарнітуры, пры гальштуку, тварам лагодны, усьміхаецца: як, студэнты, навука? Яшчэ нешта запытаўся, руку кожнаму паціснуў і пайшоў сабе далей. Падыходзіць Ніна, сястра, — яна ўжо на трэцім курсе была, ці ня ўсіх ведала. Мы да яе — хто, маўляў, за чалавек такі ветлы? А яна сьмяецца: каб ведалі вы, хто рукаўся з вамі, на калені перад ім сталі б. Аказваецца, гэта быў Смоліч. Дак жа яго «Геаграфію Беларусі» ці ня кожны з нас ужо ведаў да ўнівэрсытэту. Раней жа так нас вучылі, што нічога вартага ў гэтых беларусаў няма. А тут —такая раптам кніга: і прырода, і мінулае, і культура, і звычаі, ну і граніцы свае, беларускія. Краіна, Дзяржава, Народ! Хто раней падобнае чуў, чытаў? Ён жа і ў краязнаўстве стараўся, з Азбукіным разам. Хаця бюро [краязнаўчае] узначальваў Бялуга, намесьнікам — Казак, сакратаром —Касьпяровіч, інструктарам — Крапіва, Бядуля ў кіраўніцтве таксама. А Касьпяровіч — вельмі сьветлая галава — малады, а столькі выдаваў: і слоўнікі, і па мастацтве, і па краязнаўстве кнігі. Нам жа [«нацдэмам»] усім высылку далі, а яго — у Кузбас, антрацыт здабываць... І Смоліча — ажно ў Омск загналі, у часы Яжова зноў яго забралі — застрэлілі, а, можа, з голаду дайшоў. Дачка Смоліча каля Кіева жыве; Буйле [Канстанцыі] у Маскву пісьмы раней слала...

ДУБОЎКА

Не, зь ім у Маскве знаёмства не вадзіў. Паслаў быў яму свой аўтарэфэрат «доктарскай». Водгуку ніякага, то і мне болей не выпадала набівацца на сустрэчу. Ведаеце, «лішэнцы» былыя трымаліся насьцярожліва, далей адзін ад аднаго. Здаралася, што і пры сустрэчах выпадковых узаемна не прызнаваліся ды сьпяшылі хутчэй разьмінуцца, не павітаўшыся.

У 1931-м па камэрах менскай турмы хадзіў Дубоўкаў верш:
Шумеце, шумеце, высокія сосны,
Пілуйце вы дошкі адна у адну, —
Зьбянтэжаны вораг шукае ратунку,
Сабе ўжо самому рыхтуе труну...

Усіх прыблізна пяць такіх разьдзелаў, але большасьць забылася.

АЗБУКІН
У Інбелкульце ён вялікай эрудыцыяй вызначаўся. Напісаў геаграфію Эўропы; пра мястэчкі беларускія ці ня першай яго праца была. У высылцы не пераставаў дасьледаваць — гербар батанічны сабраў, унікальны. У вайну недзе ў Таджыкістане, у гарах, застрэлілі. А колькі чалавек мог бы зрабіць.

***
Каго я ў 20-я гады ведаў — ад іх здалёк адчувалася культура. Эпімах-Шыпіла — было ў ім нешта вабнае, далікатнае, адразу заўважалася. Жылка Ўладзімер, з паэтаў тагачасных, маладзейшых, найбольш вылучаўся таксама далікатнасьцю і высокай культурай.

ШАТЭРНІК
Ён жа з Вашай Ігуменшчыны — Шатэрнік. Хіба ведаеце яго «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны»? А што азначае слова «шатэрнік», ведаеце? Гэта чалавек, які лавіў птушкі. Вось іх, птушкаловаў, і звалі шатэрнікамі. Даўней жа ўся Ігуменшчына была аддадзеная Віленскаму біскупству і ў ім лавілі сакалы і іншыя птушкі.

ШУШКЕВІЧ
Пра Шушкевіча апрача добрага нічога не магу сказаць. Ён, як і Хведаровіч, ня можа маўчаць — выступае і выступае на кожным паседжаньні. Яго ж некалі празь мяне з камсамолу выгналі — з кулацкім сынам, бачыце, вадзіўся. Мы ў бібліятэцы працавалі разам, сталы былі насупроць.



КРАПІВА
Помню яго з «краязнаўства», — ён у бюро інструктарам працаваў. Хадзіў у фрэнчы з даматканага сукна, у вялізазных ботах і ніякага ў ім фасону не было. Ды пісаў байкі:
Ад Барысава да Слуцку,
Аж прызнацца нейк няёмка –
Усе прывыклі не па-людзку
Сяк-так боўтацца ў начоўках...

А пра Грамыку – хіба чулі сатыру на ягоны «Гвалт над формай»? Пачакайце, зараз я ўспомню:
Скінуў порткі, апранаху,
Кій схапіў ды буй з размаху,
Завастрыў свой войстры меч
І пачаў ён формы сеч –
Ён старыя ўсё сячэ,
Формы новыя пячэ.

ПА-ЭЎРАПЕЙСКУ
Тады ж, пад сярэдзіну 20-х, у Менску, відаць, было можа 3-4 чалавекі, якія апраналіся па-эўрапейску. Найперш — Пічэта, затым Юдовіч, яўрэйчык малады, загадваў Домам асьветы. Але з усіх вылучаўся Шчакаціхін: у гэтага і адзеньне, і эрудыцыя, і манэры — усё пасавала. Пасьля зьявіўся Фэлька Купцэвіч — з Латвіі вярнуўся, быў там гандлёвым прадстаўніком. Там жа — звычай. Ды і служба патрабавала элеганцыі, — да міністра ня пойдзеш у кашулі навыпуск, раменьчыкам падперазанай.

СЯСТРА НІНА
Надта ж яе, «беларускую» настаўніцу, дзеці любілі. Неяк ідзем зь ёй у бок Камароўкі — там у хаце нечай была яе школа, у 1922-м. А насустрач дзеці па вуліцы, у нейкіх каптанох, чаравіках вялізных, мо бацькоўскіх, купленых шчэ да вайны. Убачылі сваю настаўніцу, акружылі, абхапілі...
Каб не яна, «Слоўнік» Бялькевіча так і ляжаў бы. Пшанічны-Крапіва і жывому Бялькевічу наўрад ці саступіў бы. Яна ўсю сваю пэнсію на друкаваньне [рукапісу] машыністцы аддала. Хадзіла

па дапамогу ў Акадэмію Навук, да Крапівы —няма грошай! А з выдаваньнем колькі тлуму было! Пісалі і Прэзыдэнту [АН], і Пілатовічу, пакуль наважыліся друкаваць. А сястру абавязалі адразу выкупіць сто экзэмпляраў. Усіх затое адарыла — і радню, і знаёмых, і швагерак, і пляменьнікаў, і ўнукаў.

НАЧАЛЬНІКІ

Гэты паскуда ні разу пра Вальфсона ня ўспомніў. А гэта ж быў самы баявы марксіст, ідэоляг бадай што ўсіх пагромаў супроць «нацдэмаў». З Бабруйску паходзіў і Кацэнбоген. Пічэта гаварыў: зьбярэцца паседжаньне рэктарату ўнівэрсытэту і чакаюць Кацэнбогена — прарэктара. Ён жа быў і намесьнікам міністра асьветы. З гадзіну, а то і болей, чакалі. А той зьявіцца, разгорне газэту і чытае сабе.

КОЛЬКІ БАРАХЛА

каля нас нагрувасьцілася, — панаехала гэтых палкоўнікаў, ашчарэпіліся на шыі гэтага народу. Бо што ім з сваімі мацяршчыньнікамі — ня надта пакамандуеш. А тут — народ просты, цярплівы. У Амсьціславе першым дырэктарам тэхнікуму пэдагагічнага быў Бялькевіч, а пасьля С., пазьнейшы старшыня Бюро Краязнаўства, рэдактар часопісу «Савецкая краіна». І трэба ж — у інтэрвію «Вячэрняму Мінску» нядаўна адрэкамэндаваўся заснавальнікам і пэдтэхнікуму, і краязнаўчай работы.

А ён жа куды б ні прыйшоў — усю работу загубіць. А Бялькевіч і адсядзеў, і адпакутаваў нізашто-ніпрашто; «Слоўнік» жа свой так і не пабачыў надрукаваным, — ужо пасьля сьмерці аўтара ў сьвет выпусьцілі.

Ці вось яшчэ — П. Падыходзіць да мяне: «Няўжо Вы мяне ня памятаеце? Я ж сакратаром камітэту камсамолу ўва ўнівэрсытэце быў». А што за памяць аб ім — наўрад ці абыходзіць яго. Гадоў дваццаць катадру гісторыі ў пэдінстытуце ўзначальваў. На агульнаінстытуцкім сходзе ў 1956 годзе выявілася, што на 70 чалавек даносы пісаў. І нічога, сышло ўсё з рук, як ні абураліся студэнты, выкладчыкі.

Р. — ён жа віцяблянін. Можа, бацька магазін які меў. Прыехаў у Менск і адразу — дацэнтам. Хадзіў паяском падпяразаны.



Чаравікі нячышчаны – мусіць, праява рэвалюцыйнасьці.

Славіных было некалькі. Але той, што ў «Комсомольской правде» недзе ў канцы 29-га году ўзьюшыўся супраць беларускага нацыяналізму, пастараўся хіба за ўсіх. Тады ж і пачалі з дня на дзень паласкаць нацдэмаў...

ДАГНАЎ

Ці я Вам не расказваў? Гэта ж у вайну арыштантам зь менскай турмы начальства не пасьпела рады даць. На першы ці другі дзень, як усё пачалося, вывелі іх ноччу і пагналі пад канвоем. Дайшлі да Камароўскага лесу, — тады ўжо паркам Чэлюскінцаў называлі, але старэйшыя скрозь казалі: Камароўскі лес. Прывялі іх у гэты лес і загадалі на начлег класьціся, у каго што было, — торбы, клункі якія; проста на зямлю, пад дрэвамі. На досьвітку папрачыналіся, бачаць — нікога з варты, усе паўцякалі. З бліжэйшых хто — дамоў падаўся, а хто проста драла даў — далей ад вайны. Так што — вольны народ! Хоць тут ужо не да волі: скрозь бабахае, грыміць, гарыць, самалёты зьверху віснуць — немец вось-вось. Маскоўская шаша ўся запруджана – уцекачы валам...

Ну і тыя, з турмы хто — разам з уцекачамі наўцёкі. А хто — давай начальства з НКВД шукаць, каб гэта іх у турму падабралі. Дзе ж тое начальства знойдзеш? Яно папярадзе даўно пабегла, а гэтыя ззаду даганяюць. Адзін, Валушчак ці Валушчык з-пад Віцебску, бег-бег, бедны, — дзе толькі каго ні прасіў, каб яго пад канвой узялі. І за машыны чапляўся, і афіцэраў маліў: «Я арыштант! Забярыце мяне!» Сьпіхвалі яго адусюль. За Барысавам ля моста праз Бярэзіну нейкі начальнік і выстраліў па ім, але прамахнуўся. Ды і паніка страшэнная! Так ён, небарака, ажно да Вязьмы сігаў — усё прасіўся пад канвой. У Вязьме толькі зноў яго арыштавалі, пасадзілі ў патрэбны цягнік і павезьлі... У Златавусьце, у турме, зь ім я і сустрэўся —зь яго словаў і расказваю.

ГІСТОРЫЯ, ГІСТОРЫКІ

Як прыйшлі швэды ў Магілёў, колькі там ні рабавалі перад тым расійскія генэралы, а яшчэ і швэдам хапіла, — і за імі абоз пацягнуўся, дабром гружоны. За што і ўгнявіўся Пётар I —пас-

лаў калмыкаў, тыя і выпалілі горад дашчэнту; болей ён ужо і не падняўся.

***

Любаўскі... Яго ў Башкірыю саслалі былі. Там жа і нашы беларусы апынуліся, этапам — Сушынскі Язэп, Заяц Лявон, ранейшы эмігрант, яшчэ нехта трэці. Дык Любаўскі да іх: «Вас, кажа, трое беларусаў, то і я да вас прытулюся». Гэта ж Сушынскі расказваў. Наогул Любаўскі дужа хораша сябе паводзіў. І сьледу ад яго «цэнтралісцкага» настрою ранейшага не засталося. Во што гора зь людзьмі робіць.

***

У 37-м у Сэрбэнце далі дзесяць гадоў і адправілі ў Нарыльск. Там яму жылося добра. Дактаром і філёзафам шанцавала. Дактары лячылі. А філёзафы пісалі начальству работы (начальства ж вучылася...). Я сам пісаў некалі начальніку аховы пра Людвіка Фэербаха...

У 1937, калі я круціўся па сьвеце, падышоў да аднаго букініста ў Саратаве, прадаў яму ці ня самую дарагую з кніжак сваіх, — жыць жа не было з чаго...

І скажэце, як часам зь людзьмі лёс крута абыходзіцца. Каваленя Алесь – у навуцы археалягічнай вядомы чалавек. Перакоп штурмаваў, зь Перакопу да Слоніму пехатой прайшоў; нават Палікарповіч яго нацыяналістам называў. Дык гэты Каваленя рукапіс грунтоўны падрыхтаваў – «Палеаліт Беларусі». Загінуў без пары і сам чалавек, і праца.

Гэты самы судзьдзя Карпік (я зь ім унівэрсытэт канчаў) па 10 гадоў усім даваў. Каму – за «нацдэмаўскую» археалёгію, яшчэ каму – за кепскі пераклад «Медного всадника». А Вы хіба ня чулі?

***

У Бугульму з Азнакаева [Татарыя] дабраўся ледзь жывы. Дзякаваць Богу, чалавек добры трапіўся, з канём – той і падвёз мяне, бо сам я рады ўжо ня даў бы, зьнясілены быў дашчэнту. Прыехаў я да брата старшага, лесьніка, ды ў такім стане, што косьці стукалі. Сястра Волька падыдзе ноччу да ложку: «Чаго ты ня сьпіш?» Баялася, казала пасьля, што буду ўжо даходзіць. З пачатку сьнежня 1942 г. зьлёг, месяцы чатыры не ўставаў. Плеўрыт. Праляжу ноч сухім, а пад раніцу ўвесь мокры... І надгаладзь скрозь – у брата сям'ішча, вайна, прадуктаў не дастаць, зрэдчас – на базары, але ж цэны страшэнныя. Вясной прыехала Наташа [жонка] з Казані, прывезла нейкае едзіва. А раней Волька на нейкую адзежыну кавалак масла выменяла – лыжачкай карміла хворага варывам скаромным. Так я патроху адыходзіць пачаў.



***

Няхай на тры гады ён засядзе — толькі бібліятэкі, кнігі, архівы, ніякае мітусьні. І тады вылятае як шалёны — такая акумуляцыя энэргіі.

***

Прыехаў я першы раз — у 1946-м — у Вільню. Сяджу ў архіве, а да мяне падыходзіць дзядок, прадстаўляецца: М. (кніга ў яго пра паўстаньне 1863 году выходзіла — слабенькая). І вось вам акадэмік пачынае пытацца ў асьпіранта, што той ведае пра 1863 год.

***

Ленін у сваіх працах па аграрным пытаньні грунтаваўся на матэрыялах земскае статыстыкі. У нас жа земстваў не было. Усё, што я зрабіў — 95 працэнтаў — гэта архівы. Мне ж трэба было абгрунтаваць — чаму імпэратар паслаў рэскрыпт [аб падрыхтоўцы скасаваньня прыгоннага права] сьпярша туды [у заходнюю Беларусь]. Лічылася, што гэта ледзь ня самая адсталая, накшталт Таймыру, ускраіна. Дак мне і давялося залезьці... І паказаць, што ня толькі дзікасьці не было, але спраўней ад цэнтру Расіі гаспадарка ішла.

***

Я расшукаў тры тамы дакумэнтаў – як пан Карп «вызваліў» тэстамэнтам 7000 сялянаў, але пляменьнік па спадчыне справу заваліў, вольнасьць засталася на паперы. І Міцкевіча ў зман увялі, — памятаеце, у «Пану Тадэвушу», пад канец, пра гэтае вызваленьне сялянаў?

***
ПІЧЭТА
Асабістае знаёмства Максіма Багдановіча і Пічэты? Думаю, гэта магло быць. Пічэта тады друкаваўся ўва «Украинской жизни» —рэдактарам быў Пятлюра, дэмакрат, як лічыў тады Пічэта. То маглі яны пазнаёміцца праз гэты часопіс, дзе друкаваўся і Багдановіч. Сам жа Пічэта герцагавінец, а Багдановіч і Герцагавіну закранаў у сваіх публікацыях.

***
Пічэта, калі яго пасадзілі (1930 год), спрабаваў павесіцца ў камэры, на трубе батарэйнай. Але вяроўка самаробная, з кавалкаў, парвалася. У нас па суседзтве вешаўся Зьміцер Прышчэпаў — таксама сарваўся, ды ў стане ўжо беспрытомным. Нам у камэру адстукалі тады празь сьцяну, што Прышчэпаў павесіўся.

***
У Пічэты, наведаўшы за два дні да сьмерці, я спытаўся: што вы мелі на мэце, калі ў сакавіку 1922 году ладзілі вечар у гонар Янкі Купалы? «Хацеў, — пачуў у адказ, — бачыць унівэрсытэт цэнтрам нацыянальна-духовага жыцьця». Мне і рупіла гэтым басяком сёньняшнім сказаць на чытаньнях (пічэтаўскія чытаньні ў БДУ — ***А.К.***), што зрабіў тагачасны рэктар для беларускае культуры. А ў іх, бачыце, хапіла сораму дзьвярыма перада мною бразгнуць[1].

***
Пічэта паміраў, а такі ясны, востры погляд меў. «Якія ў Вас, Уладзімер Іванавіч, маладыя вочы», — кажу. «Праўду гаворыце? То можна яшчэ пажыць». А вось у Беражкова — семдзесят год — вочы, як у старых, выцьвілыя. Тады ж, на Купалавым вечары, Пічэта цытаваў яго вершы. Але сьпярша — Шаўчэнку: «... як чиста людина». Па-ўкраінску ён гаварыў без усялякага акцэнту.

***
ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ
Скажу яшчэ аб добрых людзёх. Дружынін, пазьней акадэмік,



— мала што высокай культуры, дык і чалавек харошы, спагадлівы. На абароне маёй кандыдацкай выступіў, раіў надрукаваць. Але зноў мяне тады на «казённы харч» саслалі, — яшчэ колькі год згарэла, пакуль вярнуўся да навукі. Ну яшчэ і Нечкіна — скрозь далікатна, чула ставілася да мяне. Пашуту, пэўна, ведаеце? Ён з выгляду строгі, аж куды! На маім банкеце пасьля абароны доктарскай за маршалку быў — у рэстаране Дому пісьменьнікаў. І папілі добра, і пасьпявалі, і пасьмяяліся — спраўна маршалкаваў!

***
Дык вось Дружынін на маю «доктарскую» ніяк не адгукнуўся. Пасьля я пытаўся ў жонкі ягонай — разам жа працавалі – ці чытаў ён маю працу. «Не», — кажа. Што ж, і прэтэнзій не магло быць — чалавеку ўжо за семдзесят, і заняты. Пасьля, гады праз два, бараніцца Кавальчанка. Думаю, мая дысэртацыя ня горшая была. Аднак Дружынін напісаў водгук і рэкамэндаваў Кавальчанку ў члены-карэспандэнты, а пасьля той як пайшоў ды пайшоў. Цяпер — акадэмік, аўтарытэт у гістарыяграфіі крыніцазнаўчай.
Пра той раён, пра які пісаў Кавальчанка — сотні працаў. А пра які я пісаў — аніводнай.

***
Гэта ж насеў быў Ціхаміраў, дырэктар наш, каб я станавіўся загадчыкам. Я адзін раз у жыцьці ў начальніках хадзіў —загадваў «камерой хранения» ў лягеры, тры гады; колькі разоў «уркі» страшылі — зарэжуць. І вось зноў у начальства вылучаюць. Гэта ж сядзі, чакай, хадзі да дырэктара, марней на паседжаньнях розных. Жонка Наташа ўсхадзілася — не ідзі! Буганаў быў падаў заяву Ціхаміраву; той зноў да мяне: «А Вы проследили, что он написал в дирекцию?» І раптам Ціхаміраў зьлёг, празь месяц памірае. Буганаў напісаў па ім надта харошы нэкралёг. На тым і скончылася: я на пасаду не палез. Буганаў не злаваў, так мы і суіснавалі.

***
Гэта ж я быў у Маладэчні. Што зрабіў Каханоўскі! Адчыняю дзьверы ў музэй, а там, бачу, партрэт мой — з надпісам, што я

акадэмік. «Здымай, — кажу, — хутчэй, пакуль ня ўбачыў Абэцэдарскі!»

***

Яны ж ніколі грунтоўна не вучыліся. У гэтага Л., пстрыкача, з кожнага радка так і пстрыкае невуцтва.

***

У «Весцях» Акадэміі Навук дагаварыліся да чаго: «Наша Ніва» — орган аграрыяў.

***

Пілатовіч, каб выбіць глебу з-пад нацыяналізму, загадаў напісаць кнігу, што Беларусь за Літвой, у сярэднявеччы, так уціскалі — ня вытрымаць. Сабралі аўтараў. Сярод іх адзін Грыцкевіч спрабаваў сумленна падысьці да справы, дык яго і выжылі. І вось нешта там навыдумвалі, здалі ў выдавецтва. А там уперліся, паслалі мне на рэцэнзію... Гляджу бібліяграфію. Згадваюць адну кнігу Пічэты з 1924 году, якой ён выракаўся ўсё жыцьцё. Доўнар-Запольскі абыдзены. У складзе паноў рады Вялікага Княства Літоўскага адны каталікі, праваслаўныя нічога ня вартыя. Грыцкевіч жа складаў ім рэестар паноў рады паводле веравызнаньня, — узялі павыкідвалі. Сто гадоў таму Любаўскі пісаў пра Літоўска-рускую дзяржаву. Хаця б прачыталі. Дзе ж вы бачылі! Трэба было ім давесьці: летувіска-польскія фэадалы-каталікі ўціскалі беларусаў-праваслаўных, Польшча захоплівала, Расея бараніла, вызваляла. Чытаць такое трэба немалых сілаў. Вось і напісаў я ім...

***

Пэрыядычны друк на Беларусі — ад «Минского листка». Што зь іх возьмеш — гэтых ёлупняў? Яны ці ведаюць, што яшчэ ў дваццатыя гады ў рэспубліканскую бібліятэку здадзены быў годні камплект «Tymczasowej gazety Mińskiej» — з пачатку XIX стагодзьдзя. Належаў ён памешчыку Каладзееву з Барысаўшчыны. У таго ў музэі хатнім багата было назьбіралася розных памятак беларушчыны, але нейдзе ўсё расьцярушылася ў першую вайну.



***

Паслаў жа я ў «Полымя» пра сваю Віцкаўшчыну. Ёсьць там спрыяльны чалавек, меўся падаць як «з маіх успамінаў». Але галоўны [рэдактар] заўпарціўся. Няхай, кажа, давядзе да сучаснага дня, тады надрукуем. Нават суаўтара запрапанавалі. Сьмеху варта.

***

Гэта ж трэба – ледзь не ў палову тыраж абваліць, з 12 да 7 тысяч. А што зь яго [рэдактара К.] возьмеш – начальнік сам, на начальства і азіраецца. На маю «Археаграфію», колькі не прасілі, адмовіўся рэцэнзію даваць, нават Мележ ня мог даць яму рады. А ў мяне ж 17 водгукаў на гэтую кнігу – і палякі, і немцы, і чэхі заўважылі. Зь Беларусі таксама адгукнуліся, Капыскі, але толькі праз маскоўскі друк. Свайго ж часопіса [гістарычнага] няма, а К. не ўпрасіць. Што яму нейкая там археаграфія, калі ў яго сам Кузьмін за сябру, езьдзяць разам рыбу лавіць.

***

НАШЫЯ ВЁСКІ

Ну, не цікавіць вас гэтая вёска Віцкаўшчына, вазьмеце шэсьцьсот «Хатыняў» ды апішэце іх як сьлед, што гэта былі за вёскі. Ці не 90 працэнтаў нашых вёсак гісторыю можна пачынаць з XVI стагодзьдзя. Дак яны там [у Інстытуце гісторыі] ужо дваццаць гадоў рыхтуюць працу пра Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага — карціць ім, бачыце, давесьці, што Беларусь нічога за Літвой ня значыла, нічога ня бачыла, апрача прыціску.

***

Вазьмеце вёскі нашыя. Пра іх жа — пісаць ды пісаць! Гаварыў я гэтым «генэралам», дайце гісторыю хоць 50-ці вёсак, няхай сабе 25, 15-ці для пачатку. Але зрабеце, як трэба, грунтоўна. Украінцы ж патрапілі гэтую цаліну падняць! І ў нас жа матэрыял, лічы, пад рукамі, толькі бяры. «Слоўнік геаграфічны...» працэнтаў пяцьдзясят зьвестак дае. Далей — Акты Віленскай Археаграфічнай камісіі. Дак жа трэба варушыцца. Пра «Хатыні» напісалі — добра. Але ж нас ня толькі палілі. Пачнеце, казаў, з

Багацькаўкі. Колькі людзей знаных павыходзіла! З аднае толькі вёскі. А Нізок на Узьдзеншчыне!..

***

Гарэцкі! Такая зьява! Каб адзін каморнік і такую гісторыю нацыянальнай літаратуры напісаў! Дзе вы бачылі падобнае?

***

А Менская гімназія. Ніхто ж не напісаў дасюль. А зь яе ж гэтулькі людзей павыходзіла...

***

ЦАРЭВІЧ І КАРАЛЕВІЧ

Наколькі я ведаю фальклёр беларускі, там царэвіч і цар выступаюць надта рэдка. У рускіх абагаўленьне цара і царэвіча – норма. У нас цароў не было і, адпаведна, пакланеньня не было. У сястры пытаўся, што гэта за фантастычная рыба Алер'я патрапіла патапіць карабель, на якім плыў каралевіч – там толькі каралевіч успамінаўся.

КЛОПАТ «КРАСНЫХ СЛЕДОПЫТОВ»

Зь Нясьвіжу вучні пішуць: «Хотим дружить с Вами», просяць параіць кнігі «о нашем крае». Але трэба — зь якое б школы ні пісалі, скрозь па-расейску. Ты ім — па-беларуску, у адказ — «сплошные любезности»: «Очень Вам благодарны...» Ці гэта настаўнікі дзяцей панавучвалі, а чытаць — мала радасьці. Што іншае — з Гудзевіч: ня пішуць — сьпяваюць. Прачытаеш —суцешысься: недзе ж засталася яшчэ школа беларуская ў Беларусі. Та ж я некалі ў свае Самахвалавічы кнігі пасылаў, пісаў. Школа, маўляў, у вас цяпер вялікая, мо хто зацікавіцца гісторыяй сваёй вёскі, пра Беларусь не казаў нават. І думаеце, хто адгукнуўся? Ні вучань, ні настаўнік — ніхто. Скрозь толькі «юные следопыты», ананімы, віншаваньні мне слалі. Цяпер ужо ня шлюць. Яны, бачыце, усе патрон той шукаюць, з запіскай, што «стояли насмерть».

Там жа, у нашым баку, ёсьць чаго шукаць. Недалёка ад пасёлку помнік стаіць, а на ім прозьвішча: Лопатин. Відаць, прыежджы, бо каб мясцовы, то — Лапацік. Хаця і перарабіць маглі на Лопатина, у нас жа безь перарабліваньня ня могуць. Дык гэты Лапацін, казалі, аблажыў паўвоabsьці ў сваю карысьць, — хто яго тады кантраляваў надта, у 1919-м... Езьдзіў неяк, зьбіраў падаткі, — насьцягваў і кажухоў, і шынак зь сялянскіх двароў. Дак яго хлопцы падпільнавалі каля Пяцеўшчыны і прыстрэлілі. Вось табе і герой, — звычайны злодзей.



«СКРОЗЬ — АД ПЯТРА...»

Але ж басякі, папрывыкалі: як што якое, дак скрозь ад Пятра ці Кацярыны. Так ім, бачыце, цары чужыя засланілі сваю гісторыю. Нейкі цікаўны напісаў у газэту «Вечерний Минск»: калі ў Беларусі пачалі ўпарадкоўваць лясную гаспадарку? І што, думаеце, адказалі? — «При Петре I». Вось вам і гісторыя. А ёсьць дакладная дата апісаньня лясоў Вялікага Княства Літоўскага — 1559 год. Пішу ім пра гэта ў рэдакцыю, толькі ці захочуць там сябе папраўляць.

Вярнуўся нядаўна з Каралішчавічаў, з адпачынку. Да чаго лес запушчаны. Вываратняў, сухастоін, гнільля ўсякага — вочы не глядзелі б. І гэта — пад бокам гораду-сталіцы! Мусіць, ад часоў каралевы Боны гаспадарская нага там не ступала...

***

СПАДЧЫНА

Мне казаў Ластоўскі: музэй Луцкевіча ня меншы быў, чым Дзяржаўны ў 20-я гады. Каб жа яго зь Вільні забралі. Але ж парасьцягалі. Што бабы на палавікі, а што – летувісы ў свае музэі. Зь Беларусі, гаварылі мне, нейкія афіцыйныя дамы паехалі ў Вільню пасьля вайны, у 45-м, музэй той глядзець. Ну, возьмуць яны андарак ці пояс — крывяцца: «Зачем нам эти националистические тряпки!» Так і вярнуліся ні з чым.

***

На 90-годзьдзе Багдановіча... Я ж лічуся ў Радзе па беларускай літаратуры [пры Саюзе пісьменьнікаў СССР]. Калі-нікалі на рэцэнзію рукапіс дадуць, як гісторыку. А тут — запрашэньне на ўрачыстасьць. Пайшоў, дайце, кажу і мне слова. Начальнік

просіць, каб я нядоўга. Заўважыў яму, што ня ўмею доўга гаварыць. Узяў чатыры вершы Багдановіча на гістарычныя тэмы. Пачаў з таго, чаму Багдановіч напісаў верш пра Скарыну. Бо гэта ж парадокс — зь беларусамі толькі і мог здарыцца. Прыйшло XX стагодзьдзе, а яны пра сваю такую вялікую постаць нічога не напісалі. Адна кніга расійскага вучонага Ўладзімірава. Відаць, Багдановічу рупіла ня толькі напісаць верш, але зьвярнуць увагу чытачоў: глядзеце, якога чалавека мела Беларусь. Нам жа ў школе і «Фелицию» Дзяржавіна, і чаго толькі не чыталі. Але ж нічога — пра Беларусь.

Дак вось — Багдановіч. У «Летапісцы», памятаеце, кажа пра Магілёў. У Стрыйкоўскага, я пішу ў сваёй кнізе, гаворыцца пра нашыя летапісы, якімі ён карыстаўся і якіх мы ня ведаем. Што літоўскае княства стваралася сілай Навагрудку. Ні адзін чалавек у нас раней, да Багдановіча, не падкрэсьліў Магілёў як асяродак хронікапісаньня.

***

Якая фігура Раманаў! Спрабавалі пісаць пра яго. Але дзе ж вы бачылі — ня стаўшы ўва ўмовы, пра каго пішаш. З аднаго пераліччэньня — працаваў тут, працаваў там, мала цікавага. Я недзе чуў, што маці яго звычайнай прыбіральніцай у школе працавала. Гэта ж з такою сілай энэргія зь людзей лезе. Ці вось — Федароўскі. Аднаму і гэтулькі багацьця падняць: дваццаць сем тамоў! Зь цяперашніх акадэмікаў ня кожны патрапіць, каб хоць адзін каторы з тых тамоў адолець, прачытаць. А то —напісаць. У Раманава — дваццаць два тамы! І ў такіх-та ўмовах.

***

Качалаў-Шверубовіч — з уніятаў. Даніловіч, Анацэвіч, Бабpоўскі, — мала ня ўсе гуманітарныя сілы ўва ўнівэрсытэце Віленскім з уніятаў паходзілі. Дак ведаеце, Лукошына напісала мне ліст: «Пасьля Вашага выступленьня [у тэлеперадачы «Ліра», люты 1986 г. — ***А.К.***] я іначай стала глядзець на гэтае пытаньне».

***

У Сержпутоўскага «Прымхах» чытаю: «Агонь у сэрцы і ха-



лад у галаве...» Гэта ж такая філязофія! Была сіла. Колькі разоў казаў я Гілевічу: перавыдайце!

***

Тураўскае эвангельле... Дак, ведаеце, знайшлі стары рукапіс у пройшлым веку ў тураўскага папа. У начоўках, куды пападзьдзя попел ссыпала.

***

Баброўскі Міхал — Лабынцаў надта ж ім зацікавіўся. Таксама — з уніятаў. Быў канонікам, па-беларуску казаньні гаварыў. Пятнаццаць моваў ведаў. У старажытных тэкстах парушаўся як ніхто. Гэта ён у Супрасьлі натрапіў на рукапіс XII стагодзьдзя, знаны цяпер як Супрасьльскі летапіс. Ды па сьвеце ў расьцяроб пайшоў. Пачатак рукапісу — у Замосьці, яшчэ частка — у Пецярбургу. Толькі нам, гаспадарам — фігу. Так ці ня скрозь з нашым багацьцем.

***

А вазьмеце Друцкае эвангельле. Ціхаміраў, акадэмік, зьбіраўся вярнуць рукапіс беларусам. Але ж трэба — гэткая недарэчнасьць зашкодзіла: у Віцебску царкву Дабравешчаньня ўзарвалі. «У вас там дикари — в мире не сыскать!» — гняўліва на мяне абрынуўся, нібы я асабіста тую царкву ўзрываў. Так і паплыў фонд ціхам託раўскі ў Новасібірск. А магло ж нешта з таго багацьця на Беларусь трапіць.

КАХАНОЎСКІ

Але ж гэты хлопец патрапіць старацца. Бачыце, ізноў кніга [Адчыніся, таямніца часу. — Мн., 1984]. У нас пакуль што, пры нашай беднасьці, толькі генэраламі ды героямі й захапляюцца. Пра іх — у энцыкляпэдыях, па іхных сьлядох штолета школьнікі гуртом. А тут — культура: людзі, селішчы, легенды, гісторыя. І Чэчат, і Баршчэўскі [Ян], і нікому дасюль нязнаныя Лявон Лобік, Язэп Шпэт, Мікола Мокры... А як ён падаў, як падаў! Ня піша — сьпявае. Наш абавязак пра ўсіх такіх. Большала б нам Кахаоўскіх, Белакозаў... Вось — Бібіла, казаў жа пра яе. Але ці гава-

рыў — маці яе ведала Каліноўскага і ўсё ўздыхала па тых, страчаных з Кастусём разам. Каб жа гэта тады знайшоўся хто толкам распытаць, запісаць...

***

З выдавецтва «Педагогика» на тысячу старонак — рукапіс. Просяць рэцэнзію, — «История педагогической мысли в Белоруссии». Шмат тут цікавага, новага, чаго дасюль у Беларусі ня бачылі, ня чулі. Пішуць супроць палянізацыі, русіфікацыі, праводзяць ідэю нацыянальнай школы. Самі толькі па-беларуску што пісаць, што гаварыць — ня надта кідаюцца. Бачыце: русіфікатары, але супроць русіфікацыі...

ВЕЧНАЕ

Ніхто не зрабіў на мяне такога ўплыву ў жыцьці, як гэты Шнаркевіч. Ён жа першым прынёс нам у школу беларускія кніжкі. Што найбольш з таго пачатковага чытаньня запомнілася? «Родныя зьявы» Коласа. Настаўнік выклікаў нас чытаць уголас; рупіўся, каб мы болей самі гаварылі, вучыліся літаратурнай мовы. Уявеце сабе, ад тае пары памятаю: «Ноч была ціхая, цёмная, цёплая...» Гэта ж пра велікодную ноч. Звычайна ў нас цёплыя былі ночы перад сьвятам. Як пасьвенцяць у царкве, ішлі дахаты, — займалася зара. Чаму запомнілася? Дзіцячыя ўспаміны самыя вострыя. Маці нас, малых, падымала гадзіны ў 2-3, перад раніцай; ня ўсю ж ноч таўчыся ў царкве. А тут, у Коласа, царква недзе далёка была. Мужчыны зьбіраліся ў хаце і сьпявалі велікодныя песьні. Мне чамусьці надта шкада было іх — чаму гэта не ў царкве сьпяваюць. З нашага акна царкву добра было відаць. Вось такой яна на гары і стаяла, як Марачкін намаляваў. Волька, сястра, яму расказала; яна меншая, але шмат чаго зь дзяцінства запомніла.

***

Нямала я пабачыў за восемдзесят гадоў...

Думаў, у Менск перабяруся. Заахвочваў і Барысевіч, прэзыдэнт Акадэміі навук. Але ж абэцэдарчыкі — гарой, супроць. Цяпер ужо — не. Позна.



НА ТЭЛЕЭКРАНЕ

Як зьезьдзілася, пытаецеся. Амаль дзьве гадзіны — у тэлестудыі. У чацьвер (15.02.1986 г.), у прызначаны час прывезьлі мяне на казённай машыне. Пасадзілі спачатку ў пакоі — каб натхненьне пайшло, *сосредоточился*. Пасьля — у залю: юпітэры, мікрафоны з аднаго боку, з другога. Народу на лаўках — чалавек сто: настаўнікі, моладзь. Часу мне, казалі, выдзелілі замнога. Гэта мусіць Каньшка выстараўся: пайшоў да Бураўкіна, а той загадаў — даць паўтары гадзіны. З паўгадзіны я выстаяў, расказваў. А потым — пытаньні. Цікавіліся пра сустрэчы зь Пічэтам, Купалам. Дзівіліся, як гэта — у Маскве скрозь жыве чалавек і мову сваю захаваў, ня страціў? А навошта ж яе забываць, — кажу. Вунь нейкую траву рэдкую ў Чырвоную Кнігу запісваюць, каб зьберагчы. А гэта ж мова! Але гэтыя словы ў эфір не пайшлі. У гэтай «Ліры» пераважна пісьменьнікі выступалі: Быкаў, Скрыган, Янкоўскі. З гісторыкаў, мабыць, я першым быў.

ТРЭЦІ БУКЕТ

А пасьля Іпатава мяне букетам, пад разьвітаньне, адарыла. Першы — у Гарадзенскім унівэрсытэце, я там спэцкурс па крыніцазнаўстве чытаў, дык пад заканчэньне кветкі далі. Другі — нядаўна, у Інстытуце, на юбілеі. І вось цяпер — трэці, відаць, апошні.

**АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА**
**(зь дзёньніку)**

15 лістапада 1986 г.

Улашчык памёр. Учора пад раніцу. «Змагару за гістарычную праўду Беларусі» — разьвітальныя словы на жалобнай істужцы ад беларускіх мастакоў. «Тое месца на радзіме, дзе спачне прах Мікалая Ўлашчыка, будзе сьвятым для беларусаў», — згадка за жалобным сталом.

Перад вачыма апошняя сустрэча, за два дні да ягонае сьмерці. Ляжаў ён на канапе, у тым самым пакойчыку, дзе гэтак часта і хораша гаманілася зь ім. Васковая бледнаватасьць на твары і ўся ненатуральная, нейк выцягнутая пад покрывам по-

стаць, выклікалі адразу балючую, неадольную трывогу. На крокі асьцярожныя павёў вачыма ў мой бок. Твар, відаць было, трошкі прасьвятлеў, але ня ўсьмешкай, хутчэй сумным, гаснучым водбліскам. Адчувалася ў аслабелым позірку і ледзь улоўная радасьць з сустрэчы і, мабыць яшчэ вастрэй, крыўда за бездапаможнасьць, аслабеласьць: нельга, маўляў, устаць і, відаць, ужо не падняцца.

«Пара, хіба. Такі ж пажыў чалавек», — гэта раней, у хвіліны занядужаньня, мог ён услых, напаўжартам, з уласьцівою яму філязафічнасьцю пракамэнтаваць сваё становішча. Цяпер жа не азваўся ні словам. Адно прытомленыя зьвільготненыя вочы пазіралі з-пад крутога чала неяк асабліва засяроджана, нібы спавядальна. «Вось і ўсё», — ледзь пачулася, ці мне падалося штось такое.

Забыліся звычайныя на павітаньне словы, плясканула з-пад сэрца горыччу і мальбой: «Што гэта Вы заляжаліся, дзядзька Мікалаю! Навіны добрыя зь Менску прывёз. Працы Вам прыбывае — падымацца трэба». І, заглытваючы няпрошаныя сьлёзы, скорагаворкай выпаліў тое, чаго гэтак чакаў, даўно зачакаўся Чалавек рэдкае цярплівасьці і надзеі: кнігу пра вёску Віцкаўшчына выдавецтва «Мастацкая літаратура» ўхваляе, будзе друкаваць, і сам «галоўны» Андраюк яму пра гэта напіша. Далей, што хораша, па-нязвыкламу ўзьнёсла прайшлі першыя Скарынавыя чытаньні, а ў Полацку рыхтуюць да адкрыцьця музэй беларускага кнігадрукаваньня; што энцыкляпэдысты беларускія замахнуліся на справу вунь якую — перавыдаць Статут 1588 году і не ўяўляюць сабе зьдзяйсьненьня вялікае задумы без Улашчыка...

Ці доўга яно ўсё гаварылася, але хворы слухаў, мабыць, пачуў, і відзён быў праясьнелы твар. Не забыць таго праясьненьня: надзея і роспач безнадзейная ў адным паглядзе. «Бачыце, — падаў аслабелы голас, — чаму ж не папрацаваць цяпер, але ж вось...» І саўсім ледзь чутна прашаптаў з уздыхам: «Не, мусіць». Сіл, відаць, не ставала, але, памаўчаўшы, працягваў амаль паўшэптам: «Быў жа ў мяне Арлоў з Полацку. Знайшоў яму том «Летапісаў». Добры хлопец. А Ваша кніга як?» Рупіла яму і гэтая, супольна намі перажытая справа. Дыхаў ён часта, перарывіста. Я памкнуўся асьцярожненька падняцца, каб не хваляваць далей хворага. Ды ягоная рука ледзь даткнулася маёй: «Пасядзеце троха. Гэта мне так. Слабею». І прыкрыў павекі...

*Люты 1996 г.*



---

[1] *Перад ад'ездам М.Улашчыка на «Чытаньні» з катадры гісторыі БДУ яго апярэдзілі тэлеграмай і тэлефонным званком на кватэру ў Маскве, каб ня ехаў. Некаторыя ўнівэрсытэцкія працаўнікі, на думку М.У., не маглі дараваць яму рэцэнзіі на іхны дапаможнік у часопісе «Нёман» — А.К.*